# Антоні Радзівіл вярнуўся на Бацькаўшчыну С.3


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №24 (181) 12 ЧЭРВЕНЯ 2000 г.


## ВІНЦУК ВЯЧОРКА: «ЛУКАШЭНКА ПРАВАЛІЎСЯ»



Здымак IREX/PROMmedia

***Пасьля афіцыйнага візыту ў Вялікую Брытанію й ЗША лідэр БНФ Вінцук Вячорка адказаў на пытаньні кіраўніка прэс-службы Фронту Аляксея Шэіна.***

**— Якія вынікі мела паездка?**

— Лёндан і Вашынгтон засьведчылі сваю прыхільнасьць да беларускай незалежнасьці хаця б тым, што ў 1994 годзе гарантавалі наш сувэрэнітэт, пасьля таго як Беларусь добраахвотна адраклася расейскай атамнай зброі.

*Працяг на старонцы 5*

з усёй краіны

### Настаўнікі гуляюць бяз грошай

Магілёўскія настаўнікі пайшлі на лета ў адпачынак без заробку або толькі з часткай адпускных. У бюджэце няма грошай. Агульная сума запазычанасьці па зарплатах на Магілёўшчыне перавысіла 2,5 мільярды рублёў.

Сымон Глазштэйн, Магілёў

### Лекараў бракуе

На Смаргоншчыне бракуе 26 дактароў і 33 сярэдніх мэдычных работнікаў. З прычыны іх адсутнасьці ў вёсках раёну не працуюць 4 ФАПы. У структуры выдаткаў мэдыцыны мізэрная зарплата лекараў складае 50%, 15% ідзе на закупку мэдыкамэнтаў, 11% – на харчаваньне для хворых. Кошт аднаго ложка-дня сёньня складае 1057 рублёў. Каб нейкім чынам паправіць матэрыяльны стан, штогод на месяц закрываюцца чатыры ўчастковыя лякарні раёну, а пэрсанал адпраўляецца ў адпачынак.

### Палова мужыкоў паліць

Паводле інфармацыі айчыннага Міністэрства аховы здароўя паліць амаль палова мужчынаў Беларусі, прычым у веку ад 23 да 34 гэтая лічба дасягае 52%, ад 35 да 44 – 40%, далей пад сівую сталасьць – яшчэ крыху менш. Мэдыкі мяркуюць, што ў моладзевых асяродках больш-менш рэгулярна спажываюць тытунь каля 70% юнакоў і мужчынаў у веку ад 15 да 23. Сярод жаночай паловы паліць недзе 5–7%.

Паводле БАРС

### Яшчэ два не асьцерагліся

Студэнтаў Гомельскага ўнівэрсытэту Зьмітра Карпенку і Зьмітра Кумічова зьлавіла міліцыя пад час расклейкі ў горадзе ўлётак, якія выкрывалі мясцовае чынавенства, што гаціць велізарныя грошы ў лядовы палац тады, калі ў тым жа мікраёне няма лякарні і недабудаваная школа. Маладых даставілі ў РАУС, на іх склалі пратакол, а пасьля ім доўга чыталі натацыі.

### Ален апраўданы

Наваполацкага сьпевака Алена затрымалі, абвінаваціўшы ў продажу фальшывых даляраў. Сьпявак спрабаваў здаць у абменны пункт сто даляраў – з тых якраз, якія ён зарабіў у сваёй нядаўняй паездцы ў Амэрыку. Дзяўчыне-банкірцы даляры падаліся фальшывымі. Міліцыя ж разабралася і прызнала грошы сапраўднымі.

### Сьвята Божага Цела

Можа быць, што сёлетняе шэсьце на сьвята Божага Цела, якое каталікі ладзяць штогод з 1992 году, не адбудзецца. Звычайна працэсія ішла ад касьцёла Сьвятога Роха да Чырвонага касьцёла праспэктам Скарыны, прычым рух транспарту ў апошнія гады не перакрывалі. Сёлета каталікі далі заяўку ў гарвыканкам загадзя, але пакуль адміністрацыя згоды не дае. Чыноўнікі спасылаюцца на Лукашэнкаў дэкрэт і накіроўваюць у адміністрацыю Лукашэнкі. Шэсьце сёлета мусіць адбыцца ў нядзелю 25 чэрвеня, але пакуль пробашчы касьцёлаў ня робяць у парафіях аніякіх аб'яваў.

### 2,7 чалавекі на месца

Сёлета конкурс пры паступленьні ў ВНУ складзе прыблізна 2,7 чалавекі на месца, летась было 2,5. Бо цяпер адзінаццатыя клясы сканчаюць на сем тысячаў падлеткаў больш, чым год таму. Ува ўсіх ВНУ уводзіцца практыка ацэнкі абітурыентаў па шасьцібальнай сыстэме (2; 3; 3,5; 4; 4,5; 5). У найбольш прэстыжных унівэрсытэтах мэдалісты ня мецьмуць ранейшых ільготаў.

### Рост цэнаў

Цана электраэнэргіі вырасла ўдвая. Гарадзкія жыхары, а таксама ўладальнікі дачаў і гаражоў будуць плаціць 7,2 рублі за кіляватгадзіну, сельскім жыхарам тарыф складае 5,2 рублі за кіляватгадзіну.





ЗАБЭЙДА

*Міхась Забэйда-Суміцкі і Надзея Батурыцкая. Прага, 1966 год.*

# ХАТНІ КАНЦЭРТ

Надзея Батурыцкая

Сустрэча праз трыццаць гадоў была сумнай і хвалюючай. Альшанскія могілкі ў Празе. На сьціплым помніку надпіс: MichaL Zabejda 1(14).6.1900--21.12.1981 Běloruský Koncertní a operní pěvec a pedagog. Ніжэй: «Міхась Забэйда, пясьняр беларускі. Жыў песьняй і песьняй даваў людзям радасьць...» Празь дзесяць гадоў зьявілася прыпіска: Nadežda Kostecká 17.10.1922--10.3.1991.

Гэта яна, Надзея Кастэцкая, вучаніца сп.Міхала, жонка Любаміра Кастэцкага, кіраўніка Сметанавага квартэту, на пачатку 1982 году рассылала паведамленьні ў чорных простакутніках усім сябрам і знаёмым.

А здавалася, што ён будзе жыць вечна. Дактары называлі яго фэномэнам, бо й на сёмым, і на восьмым дзясятку ахвотна і прыгожа сьпяваў.

Верыць ня хочацца, і я бягу на Польскую, 12 — гэта зусім недалёка ад таго месца, дзе цяпер знаходзіцца Радыё Свабода. Вось ён, шэры дом ля Рыгровага парку. Забегчы на другі паверх? Мяне сустракае замок з 12 кнопкамі, супраць якіх прозьвішчы жыхароў. Чытаю і чамусьці запісваю. Не, няма сярод іх Забэйды. Павольна іду па Бланіцкай, што вядзе да Італьянскай. Знаёмай назвы Nad rozhlasem ужо няма, значыць, няма і сталага наведніка рэстарана...

Пад час гастроляў 1963 году ў Беларусі нам сустрэцца не давялося. Прыйшлося «даганяць» дзядзьку Міхася ў Празе. Са мной фотаздымак, зроблены ў Менску («дзеля знаёмства», — напісалі на ім сябры), «Жменя сонечных промняў» Янкі Брыля («беларускаму салаўю, які пакуль што ў вырай»). Угледзяюся ў назвы вуліц, знаходжу патрэбную і нясьпешна падыходжу да пад'езду ягонага дому. Цісну на кнопку званка побач з шыльдай «Zabejda».

...Маленькі, завалены нотамі, кнігамі, часопісамі, лістамі, фотаздымкамі пакойчык нiяк не стасаваўся да пана прафэсара, майстра-вакаліста. Канцэртны раяль, вялікі прыймач, сэрвант, стол. Замест ложка — канапа. Старое, як Прага, люстра, сьмешная лямпа. І падарункі, узнагароды. Тут і вянкі са стужкамі, і карціны, і бюст сьпевака, зроблены жонкай яго вучня, і букет пажухлых кветак, і сьвежая лілея. Стол «засялілі» беларусы: Ніл Гілевіч зь сям'ёй, Язэп Семяжон безь сям'і, Максім Танк, Пімен Панчанка, Ларыса Александроўская, Рыгор Шырма зь Міхалам Забэйдам у Карлавых Варах, маладыя Лявон Акаловіч, Вячаслаў Рагойша.

Цяпер у Міхала Забэйды дзьве «Жмені сонечных промняў»: першую падарыў аўтар. Разгорнуты 10-ы нумар «Полымя» (1965 г.). «Подых навальніцы» Івана Мележа чытаў з асаблівай гордасьцю. «А тыражы нашых часопісаў усё ж растуць», — паведаміў з задавальненьнем.

Напярэдадні артыст вярнуўся з гастрольнай паездкі ў Польшчу, адкуль прывёз «плыткі» з запісамі беларускіх і гішпанскіх песень. Я папрасіла пракруціць. «З задавальненьнем». Пачаў з «Калыханкі», той самай, што прасьпяваў пасьля 20-гадовае разлукі з маці па звароце з Італіі. Маці Аляксандра тады першы раз слухала сына на канцэрце.

*Працяг на старонцы 6*

тыдзень нашага жыцьця

# ЭЎРАПЕЙСКАЯ КУБА

Тыдзень пачаўся з выступленьня будучага пасла Амэрыкі ў Беларусі Майкла Козака ў Сэнаце, якое зьвярнула на сябе ўвагу тым, што ён працытаваў словы зь летапшняга сэнацкага дакладу пра Беларусь, у якім нашу краіну называюць «эўрапейскай Кубай». Ён таксама сказаў: «Палітыка, апэрацыі і праблемы бясьпекі, зь якімі мы сутыкаліся на Кубе, вельмі падобныя да тых, якія мае пасольства ў Менску». І таксама: «Беларусь — краіна, што перажывае сур'ёзны канстытуцыйны й палітычны крызыс, выкліканы неканстытуцыйнымі спробамі... Прэзыдэнта падоўжыць час свайго знаходжаньня на пасадзе і падпарадкаваць выканаўчай уладзе ўсе значныя дзяржаўныя інстытуцыі». Майкл Козак выказаў разуменьне таго, што «гэты крызыс, калі не зьвяртаць на яго ўвагі, можа істотна закрануць інтарэсы суседзяў Беларусі. А падтрымка Беларусяй варожых Амэрыцы рэжымаў можа закрануць інтарэсы самой Амэрыкі». Ён зьвярнуў увагу на тое, што рыторыка Лукашэнкі й Кастра вельмі падобная. У той жа час ён падкрэсьліў, што ЗША не зьбіраюцца падтрымліваць адну ці другую палітычную сілу краіны. Гэты выступ Козака выклікаў рэзкую рэакцыю МЗС РБ, якое назвала ацэнкі, што прагучалі, «пасьпешлівымі».

Прызначэньне ў Беларусь спэцыяліста па Кубе й Гаіці сьведчыць пра тое, што з Лукашэнкам не зьбіраюцца «цацкацца».

Беларуская апазыцыя дэманстравала на гэтым тыдні сваю еднасьць: вырашылі правесьці 2 ліпеня, напярэдадні чарговага візыту тройкі АБСЭ, чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў, на якім вырашыць — ісьці ці ня йсьці на выбары. Вызначылася і тое, хто складае ядро апазыцыі — гэта Народны Фронт, АГП, сацыялдэмакраты «Народнай Грамады» і «Хартыя-97». Усе астатнія працягваюць куляцца ў пошуках гаспадара, які б іх прытуліў, або надта мала значаць. Гэтыя найбольш уплывовыя партыі апазыцыі выказалі таксама сваё стаўленьне да меркаванага Ўсебеларускага Зьезду і прыняцьця Акту незалежнасьці. Няма чаго пароць гарачкі, нерэальна арганізаваць прадстаўнічы зьезд ужо ўлетку, кажуць яны, лепей адкласьці яго на восень, каб гэта быў не чарговы сход пары соцень актывістаў, а сапраўды Ўсебеларускі Сход, роўны па сваім значэньні Першаму і Другому. Але, нягледзячы на тое, што такую пазыцыю занялі і Івонка Сурвілла, і Сямён Шарэцкі, і Вінцук Вячорка, усё ж А.Старыкевіч і Г.Бураўкін, два галоўныя завадатары Зьезду, упарта стаяць на сваім і нікога пакуль ня слухаюць. Сойм БНФ у суботу ўрэшце прапанаваў ім кампраміснае рашэньне — правесьці 29 ліпеня не Ўсебеларускі зьезд, каб не фальшаваць і не зашмольваць гэткую гістарычную назву, а проста Зьезд за незалежнасьць.

М.Статкевіч і В.Шчукін выступілі з палымянымі прамовамі ў абарону сябе, сваёй дзейнасьці і восеньскага Маршу Свабоды на крымінальным судзе над імі — прамовы гэтыя вартыя таго, каб увайсьці ў залаты фонд беларускай публіцыстыкі. «Свабода або сьмерць», — альтэрнатывы няма, заявіў М.Статкевіч. Прысуд маюць вынесьці на наступным тыдні.

Уладзімер Ярмошын праславіўся фразай «хохлы всё равно будут обдирать», гаворачы аб працы ўкраінскай мытні — раней усё Лукашэнка самаручна арганізоўваў давоз гнілога малдаўскага вінаграду, цяпер гэты ўзяўся. Цікава, ці дадуць яму папярэджаньне за распальваньне міжнацыянальнай варожасьці? У кожным разе, слова не верабей — Ярмошын істотна падмачыў міт пра ўласную інтэлігентнасьць. Адна з «прадсядацелем» кампанія.

Пакуль Ярмошын лаяў маларосаў, Кучма заявіў, што да 15 сьнежня закрые-такі Чарнобыльскую АЭС, а баўгары абвесьцілі, што на лета зьмяншаюць цану візы на ўезд, каб болей турыстаў завабіць.

Дарэчы, за мяжу бяз банкаўскага дазволу хутка можна будзе вывозіць 1,5 тысячы даляраў, а не 500, як цяпер — да новых правілаў абавязвае Мытны саюз. А вось суму гарантаванага дзяржавай валютнага ўнёску ў банк (то бок таго, які дзяржава абяцаецца кампэнсаваць у разе, калі банк збанкрутуе) зьменшылі з 2000 да 1000.

У чацьвер на плошчы Перамогі ў Менску забілі вядомага ўзбэка-прадпрымальніка Аджы-Асманава. Радыё Свабода кажа, быццам бы прычына — у перадзеле правоў на імпарт у Беларусь збожжа, што моцна вырасла ў цане апошнім часам.

70 тыс. жыхароў Менску пераводзяць з Фрунзэнскага ў Цэнтральны раён — памяняюць райвыканкам тыя, хто жыве ў раёне Машэрава-Кальварыйскай. Бо Цэнтральны раён — найменшы, а Фрунзэнскі з пабудовай Захаду, Масюкоўшчыны і Краснага Бору надта разросься.

У суботняй «Народнай волі» надрукаванае інтэрвію зь Віньнікавай, якая ізноў нічога ня кажа. «ЛіМ» у чацьвер ня выйшаў — няма грошай на рахунку, і дзяржава нічым ня можа дапамагчы. Гэтаксама завісьлі і іншыя дзяржаўныя датацыйныя выданьні. То проста заробку не плацілі, а то ўжо й на друк зажмындзілі.

Тымчасам у Магілёве адбыўся першы сёлета сполах дызэнтэрыі — захварэла больш за 300 чалавек. Трэба рукі мыць!

Б.Т.



# НАФТА ВАША, КРЭКІНГ НАШ

Лукашэнка асабіста правёў нараду па праблемах нафтавай галіны. Прычына яе – брак грошай на рэканструкцыю нафтаперапрацоўчых заводаў у Мазыры і Наваполацку. На нарадзе казалі, што мадэрнізацыю наўрад ці скончаць да 2003 году. Таму Лукашэнка хоча прыцягчы для рэканструкцыі фінансы банкаў, канцэрну «Белнафтахім», іншых прадпрыемстваў, нават не зьвязаных наўпрост з нафтай. Што да замежнага капіталу, дык яго можна завабіць, толькі калі прадаць частку нафтавай галіны. «Мы ня супраць падзяліцца нейкай часткай уласнасці, але рабіць гэта будзем выключна ў скрайнім выпадку і вельмі асьцярожна, – заявіў Лукашэнка. – Трэба мець на ўвазе, што ўласнасьць каштуе грошай, і гэтыя грошы павінны нашай дзяржаве паступіць». Пры гэтым ён яшчэ раз падкрэсьліў, што кантрольны пакет акцыяў беларускіх НПЗ «заўсёды застанецца за дзяржавай» і гэтыя прадпрыемствы застануцца пад поўным кантролем дзяржавы. Адначасова, са словаў А.Лукашэнкі, тыя, хто хоча інвэставаць свой капітал, павінны стабільна пастаўляць сыравіну і трымацца беларускіх законаў.

Лукашэнка таксама патрабаваў ад ураду і беларускіх фірмаў, каб яны актыўней бралі ўдзел у здабычы нафты ў Расеі, каб Беларусь стварыла для гэтых мэтаў адмысловую нафтавую кампанію. «Мы абавязкова павінны атрымаць права здабычы нафты ў Расеі. Такая магчымасьць сёньня ёсьць».

Лукашэнка відавочна адстойвае ў нафтаперапрацоўчай сфэры інтарэсы свайго кляну – ён імкнецца максымальна затармозіць пранікненьне ў гэтую сфэру агрэсіўнага расейскага капіталу. Каб жа расейцы яго за гэта не забілі.

Б.Т.

з усёй краіны

## Фэст у Наваградку

Падрыхтоўка да фэстывалю сярэднявечнай культуры, што адбудзецца 24–25 чэрвеня ў Наваградку, у разгары. На яго маюць прыехаць 529 удзельнікаў з Латвіі, Літвы, Расеі, Польшчы. Сёньня маюць пачаць будаваць замкавую сьцяну, якую будуць браць штурмам пад час спаборніцтваў рыцары з розных рыцарскіх клюбаў. На фэстываль таксама запрошаныя і музычныя гурты з Эстоніі, Расеі, Польшчы, Швэцыі, што граюць сярэднявечную музыку. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць на Інтэрнэт-сайце www.festival.ot.infonet.by.

## Помнік Агінскаму

У Маладэчне каля музычнай вучэльні хочуць паставіць помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму, аўтару слыннага палянэзу. Гатовы ўжо макет, яго аўтарам – Валяр'ян Янушкевіч. Скульптура мусіць быць зробленая з паліраванай бронзы. Пытаньне застаецца пра грошы, на праект агулам патрэбныя блізу 40 тыс. даляраў. Адміністрацыя вучэльні спадзяецца, што большую частку прафінансуе выканкам, а частку складуць прыватныя ахвяраваньні.

## Ягераў балятуецца ў Чэрыкаве

Генэрал-палкоўнік У.Ягораў, былы кіраўнік МУС і КГБ, адзін зь лідэраў незалежніцкага крыла ў акружэньні Лукашэнкі, распачаў перадвыбарчую кампанію. Выбраў ён сабе Чэрыкаўскі раён. Ён выступае і прысутнічае на зборах, паседжаньнях, нарадах на розных прадпрыемствах і ў арганізацыях, ладзіць асабістыя прыёмы гараджанаў, сустракаецца з народам, нават езьдзіць па вёсках! Пад час візыту ў Верамейскае лясьніцтва, якое славіцца фантастычным узроўнем радыяцыі, высокі госьць застаўся задаволены работамі па стварэньні тутака спэцыяльных месцаў для адпачынку людзей.

Андрэй Кузьмін, Крычаў

## Нямецкія атэстаты — беларусам

5 чэрвеня рэфэрэнт у пытаньнях культуры пасольства Нямеччыны ўручыў дыплёмы веданьня нямецкай мовы сусьветна прызнанага ўзору 34 выпускнікам Менскага лінгвістычнага каледжу № 24 і школы № 73. Каб атрымаць іх, вучні мусілі вытрымаць спэцыяльны складаны іспыт. Дыплём пацьвярджае веданьне нямецкай мовы і прызнаецца ва ўсім сьвеце. Моўны дыплём другога ўзроўню дае магчымасьць навучаньня ў нямецкіх ВНУ.

Б.Т.

лісты ў рэдакцыю

## Рэспубліканскія мовазнаўцы

*Пра розныя цуды даводзіцца часам чытаць і чуць у афіцыйных мэдыях. Чарговы давялося пабачыць у «Рэспубліцы» (№121, 3.06.2000). Пісьменьнік Федасеенка сьцьвярджае, што 70% словаў у нашай мове — расейскія, а частка — украінскія і польскія. І «невядома, хто ў каго іх пазычыў»! Інакш кажучы, размаўляеш ты па-расейску, па-беларуску альбо на «трасянцы» — усё роўна размаўляеш «па-руску», і нашто тут агарод нейкі гарадзіць. Няма мовы — няма праблемаў. Усялякіх даводзілася бачыць пісьменьнікаў, нават ляўрэатаў Шолахаўскай прэміі, але каб такое... А мо ўсё гэта эмоцыі? Паеду летам да цешчы ў Расею, завязу нумар нават ня «Нашай Нівы», а «Звязды», пагляджу на гэтыя 70%.*

Вячка Васілёнак, Менск

пазытывы

# ХЛЕБ У АБМЕН НА ВОЛЮ

Для эканаміста ўсе людзі — спажыўцы, частка якіх займаецца вытворчасьцю. На ўсё зробленае ёсьць пэўны попыт. На высокія абцасы — няўстойлівы, а на хлеб — амаль нязьменны. Ёсьць попыт штучны, напрыклад, на цацкі-тамагочы ці паслугі прэзыдэнта.

На год патрэбна чалавеку прыкладна тона ежы. Альбо сам лаві, зьбірай, гадуй, альбо купляй. Гэта, так бы мовіць, тэорыя.

Каб убачыць беларускую практыку вытворчасьці ежы, ваш карэспандэнт, чалавек выключна гарадзкі, накіраваўся ў аддаленыя раёны краіны. Сумнае бачыў з вакон машыны: прыгожыя дзеўкі лыткі падарожнікам дэманструюць, калгасныя статкі паменелі.

Але як дабраўся да месца, у Мядзельскі раён, усё аказалася ня так змрочна. Шкада, што сёньняшні ўзровень дэмакратыі робіць неэтычным паведамленьне, да каго канкрэтна дабраўся, бо задзяўбуць добрых людзей. Убачыў жа звычайную капіталістычную сельскую гаспадарку і гаспадароў, якіх вельмі не задавальняе ўпартае выкарыстаньне ў краіне аграрнай палітыкі КПСС.

У іх вельмі прыгожыя палі. Відаць, што будзе ўраджай някепскі. У іх мноства тлустых сьвіньняў і вялікіх кароваў. Яны маюць новыя гаспадарчыя будынкі і будуюць яшчэ. Сёлета, як і летась, у іх будзе добрае сена. Яны зараз гуртом прадаюць бульбу. Жывуць сабе.

Калгасьнікі крадуць саджанцы ў іхных садах, труцяць рыбу ў сажалках, падкошваюць іхную канюшыну і падзарабляюць у іх падзённа (ня рвацца ж век разам з гэнымі дурнямі).

Яны не злуюць на калгасьнікаў. Кажуць, трэба ратаваць рэшткі сялянства. Яны самі сяляне, а таму разумеюць, што жыць як набяжыць доўга не атрымліваецца.

І так ужо да прорвы прыпёрліся ленінскім шляхам. Паводле рацыянальных нормаў спажываньня, разьлічаных за часоў разьвітага сацыялізму і харчовай праграмы, кожны сацчалавек меўся зьесьці за год 170 кг бульбы, 405 л малака і 82 кг мяса. Г.зн. бульбы харчовай трэба на Беларусь 1700 тыс.т, а г.зв. «сельскагаспадарчыя прадпрыемствы» летась атрымалі 775 тыс.т, зь якіх палову пагнаілі потым за зіму. Грамадзяне тым часам накапалі 6716.0 тыс.т.

Малака трэба на Беларусь 4050 тыс.т, а нашыя буйныя сацыялістычныя гаспадаркі выдушылі са сваіх безымянных КРС 2800,4 тыс.т. Тымчасам бабулям зь дзядулямі рагулі аддзячылі за клопат... З айчыннай статыстыкі вядома, што ўва ўсіх катэгорыях гаспадарак было закуплена за год малака 2620,8 тыс.т, што складае 42% ад узроўню 1990 году. Нездарма марыць вярнуцца туды Галоўны Аграрый: закупі 6240 тыс.т. малака, і выбараў ня трэба: на руках у палац занясуць.

А дзе ўзяць мяса 820 тыс.т, калі дзяржзакупкі склалі 552 тыс.т за 1999 год? Гэта ж 35% ад узроўню 1990 г. Дзе-дзе — у вёсцы. Там ё ў людзей.

Памятаеце, спрачаліся, што галоўнае — сьцяг бел-чырвона-белы ці танная кілбаса. Няма ні кілбасы, ні сьцяга. Воляй Бацькаўшчыны гандлююць зь першымлепшым. А ўсё чаму: людзям зямлю аддаць нельга, а па 100 000 даляраў штогод пёрці ў кожны калгас — можна, грошы ёсьць.

Іншая рэч, што попыту на ежу не адменіш. Таму ажыве вёска, дай ёй толькі волю. Мала сялян засталося, але і тых, што ёсьць, хопіць. Вунь, з вышэйшай сельскагаспадарчай адукацыяй больш як 100 000 чалавек, а проста разумных дык і ня злічыш.

Вось каб ім волю хто даў...

Міхал Залескі



# АНТОНІ РАДЗІВІЛ ВЯРНУЎСЯ

*Урна з прахам нашчадка беларускіх магнатаў у сераду была дастаўленая ў нашую краіну з Англіі. Для ўдзелу ў жалобнай цырымоніі ў Беларусь прыляцелі родныя Антонія Радзівіла – ягоная ўдава, два сыны й нявестка. Спадарыня Радзівіліха перадала ў дарунак Беларусі сямейную рэліквію – унікальную мапу нашае краіны, выробленую напрыканцы XVI стагодзьдзя на замову князя Радзівіла Сіроткі. Уручаючы беларусам свой дар, госьця выказала спадзяваньне, што старажытная мапа дапаможа новым пакаленьням беларусаў спасьцігаць гісторыю Бацькаўшчыны.*
*У чацьвер у Нясьвіжы ва ўрачыстай атмасфэры адбылася цырымонія перапахаваньня Антонія Радзівіла – яго прах знайшоў вечны прытулак у крыпце Радзівілаў, што ў Фарным касьцёле. Каля трох гадзінаў доўжылася жалобная імша, пасьля якой адбыўся канцэрт-рэквіем, у часе якога сярод іншых музычных твораў прагучэлі й кампазыцыі, створаныя некалькі стагодзьдзяў назад радавітымі продкамі Антонія Радзівіла. Увечары госьці жалобнае цырымоніі былі запрошаныя на памінальную вячэру.*



Здымкі IREX/PROMmedia

*Жалобная імша па Антонію Радзівілу.*



*Павал Радзівіл і Роза Радзівіліха, сын і жонка Антонія Радзівіла, нясуць урну з прахам памерлага магната.*



*Нашчадак Антонія, Павал Радзівіл цалуе крыж перад пачаткам жалобнае імшы й разьвітальнай цырымоніі.*



*Апошні прыстанак князя ў фамільнай пахавальні, што ў крыпце нясьвіскае Фары.*



*працяг са старонкі 1*

# ПАРАЗУМЕНЬНЕ ЗА АКІЯНАМ

На эўрапейскім кантынэнце ёсьць некалькі сталіцаў, якія дэманструюць дастаткова пасьлядоўную лінію да Лукашэнкі — гэта Стакгольм, Прага і Лёндан. Хаця, на жаль, у Лёндана пад уладай лейбарыстаў былі розныя палітычныя піруэты (я маю на ўвазе пасьпешлівую паездку Тоні Блэра ў Пецярбург). Але, тым ня менш, я перакінаўся, што абедзьве буйныя партыі, ня кажучы ўжо пра партыі меншыя (напрыклад, партыю валійс-кіх патрыётаў), і чыноўнікі зь Міністэрства замежных справаў, ведаюць нашую сытуацыю, падтрымліваюць імкненьне Беларусі да незалежнасьці й дэмакратыі.

А тое, што мы пабачылі ў Вашынгтоне, — гэта сапраўды беспрэцэдэнтна. Беларуская тэма, беларуская праблематыка стала «моднаю» ў вашынгтонскіх палітычных колах. З намі выказалі жаданьне сустрэцца найбольш уплывовыя ў палітыцы людзі, сярод іх былі і Зьбігнеў Бжэзінскі, экспэрт для ўсяго заходняга сьвету ў тым, што стасуецца геапалітыкі, і сэнатар Джон Макейн, нядаўні кандыдат у прэзыдэнты ад Рэспубліканскай партыі, які адмыслова прыйшоў на сустрэчу з нашым удзелам і выступіў з палымянай прамовай у падтрымку беларускай незалежнасьці. Мы дамагліся нашым візытам таго, што ўжо запушчана «ў вытворчасьць» рэзалюцыя Сэнату наконт Беларусі (пасьля рэзалюцыі Кангрэсу яна, магчыма, будзе яшчэ мацнейшай); што беларускае пытаньне пастаўлена ў парадак дня сустрэчы Клінтана з Пуціным. Мы пачулі поўную падтрымку нашага «прынцыпу чатырох пазыцыяў». Чатыры ўмовы выбараў і пэўны час для іх рэалізацыі і затым — свабодныя, дэмакратычныя, прызнаныя сьветам выбары. Гэта ўва ўсіх вашынгтонскіх кабінэтах было цалкам падтрымана.

— Які імідж мае Беларусь у палітыкаў на Захадзе?

— Я б сказаў, што зьменны. Яшчэ восем гадоў таму нават чыноўнікі, магчыма, не знаходзілі нашай краіны на мапе. Потым мы выклікалі цікавасьць, калі вывозіліся ракеты з нашай тэрыторыі. Пасьля наступіла забыцьцё. І толькі разгул дыктатуры ў нашай краіне, прыход да ўлады ў Расеі «чорнага ката ў чорным пакоі» — Пуціна, і самае галоўнае, — рэзкая актывізацыя незалежніцкіх сілаў за апошні год, змусілі зноў заўважыць Беларусь на мапе.

Які імідж мае Беларусь? Імідж краіны, якая, насуперак геапалітычным законам, раптам апынулася ў сфэры ўплыву адроджанай імпэрскай Расеі. Гэта выклікае, перадусім у амэрыканскіх палітыкаў, дзеячоў, якія ўважаюць Амэрыку за апірышча дэмакратыі, жаданьне дапамагчы аднаўленьню дэмакратыі, а тым самым і незалежнасьці Беларусі.

— Пад час паездкі вы сустракаліся таксама і зь беларускай дыяспарай?

— Будучы ў Брытаніі, я ніколі не абмінаю магчымасьці спаткацца з а.Аляксандрам Надсанам, духоўным лідэрам беларускіх грэка-каталікоў, але й сапраўдным маральным і палітычным лідэрам беларусаў Вялікай Брытаніі. Скажу, што ён выдатна арыентуецца ў беларускай сытуацыі, і ў гэтым я чарговы раз пераканаўся.

Я ўзнавіў кантакты з асноўнымі дзеячамі беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах. Меў доўгую тэлефонную размову з Івонкай Сурвілай, гаварыў таксама зь Янкам Запруднікам, Вітаўтам Кіпелем, Антонам Шукелойцем, кіраўніком Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Віталём Зайкам. Я цешуся, што абсалютна ўсе ацэнкі беларускага палітычнага становішча ў нас і кіраўніцтва БНР і БАЗА супадаюць. Дарэчы, кіраўніцтва БАЗА (Запруднік, Зайка, Алеся Кіпель і Расьціслаў Завістовіч) наведалі Вашынгтон праз тыдзень пасьля нас, і, фактычна, замацавалі наш замежнапалітычны посьпех ды скарысталі свой натуральны ўплыў, бо яны (а бальшыня зь іх — амэрыканскія грамадзяне) — гэта тая сіла, да якой Вашынгтон мусіць прыслухоўвацца.

Мы паразумеліся і ў такім спэцыфічным пытаньні, як правядзеньне Ўсебеларускага зьезду. І ў БНФ, і ў беларускай дыяспары ёсьць трывога: каб жа толькі не здэвальваваць Усебеларускі зьезд як ідэю, каб ён ня быў проста банальным чарговым сходам, і, разам з тым, каб не была падважаная легітымнасьць і Рады БНР, і Вярхоўнага Савету 13 скліканьня. Мы дамовіліся пра безупынны кантакт і каардынацыю з кіраўніцтвам Рады БНР у стаўленьні да Ўсебеларускага зьезду.

— На Ваш погляд, чаму Лукашэнка так нэрвова адрэагаваў на візыт аб'яднанай апазыцыі ў Амэрыку?

— Бо гэта ягоная замежнапалітычная параза. Ён меркаваў, што сваёй гульнёй у дыялёг, маніпуляцыямі і частковымі саступкамі (напрыклад, што Чыгіра не пасадзілі ў турму, а адклалі прысуд) ён здолее схіліць кантынэнтальных эўрапейцаў да сцэнару, да якога яны й так звычайна былі схільныя: да спробаў доўгіх і бясплённых размоваў, каб пераканаць дыктатара. Мы памятаем, што польскай «Салідарнасьці» дапамагалі больш не кантынэнтальныя краіны, а Злучаныя Штаты, Вялікая Брытанія, Швэцыя. Павадзіны кантынэнтальных краін часта нагадваюць стравусіныя.

Лукашэнка быў перакананы, што вось-вось ягоны «дыялёг» будзе прызнаны АБСЭ як спосаб выйсьця з палітычнага крызысу. Аж тут раптам на найвышэйшым узроўні, на узроўні міжнародных камісіяў абедзьвюх палатаў амэрыканскага парлямэнту сьцьвярджаецца зусім адваротнае. А вага Злучаных Штатаў — гэта вага Злучаных Штатаў. Для Лукашэнкі стала абсалютна ясна, што ён праваліўся. Вось адкуль ягоныя пагрозы.

Дзядзька Антось у Маскве



# ГОРАД-МЭТРО

Памятаеш, мой дружа, ты сказаў неяк: «Кожны горад мае сваю душу, нейкую сваю характэрную рысу, якой надзяляе сваіх жыхароў, жадаючы, каб яны сталі такімі самымі, як ён».

Згодны. Дадам толькі, што існуюць такія месцы ў горадзе, дзе характар гораду і жыхароў праяўляецца найбольш яскрава. Сёньня я паведу цябе туды, дзе, на маю думку, найярчэй паказвае сваю сутнасьць Масква. Гэта ня Крэмаль, не Чырвоная плошча. Гэта маскоўскае мэтро.

Паспаліты масквіч праводзіць пад зямлёю ў сярэднім амаль гадзіну ў дзень – інача на працу, вучобу ці адпачынак можна даехаць толькі на машыне. Прытым што па часе атрымаецца прыкладна аднолькава. Наземны транспарт працуе добра, але, нягледзячы на ўсю жвавасьць тэмпэрамэнтных украінскіх кіроўцаў, застаецца даволі павольным сродкам.

Я ня буду распавядаць гісторыю маскоўскае «падземкі», тым больш, апісваць яе станцыі. Яна значна старэйшая за менскую, значна даўжэйшая (больш за 200 км), а ў цэнтры вельмі прыгожая.

У мэтро нас найперш спаткае натоўп. Ягонаю адсутнасьцю могуць пахваліцца толькі ўскрайкі Масквы. Натоўп, які не зьвяртае ўвагі амаль ні на кога й ні на што – ён заўсёды некуды сьпяшаецца, ляціць. Вось і мы сталі ягонаю часткаю й вымушаныя сьпяшацца разам з усімі. Навокал шмат розных крамак, доктарскіх кабінэтаў, сэрвісаў. Індустрыя абслугі даўно й вельмі трывала атабарылася пад зямлёю. Гэта сапраўды вельмі зручна, асабліва калі бавіш у мэтро столькі часу штодзень. Масквічы любяць, каб было зручна й хутка.

Акрамя афіцыйных крамаў, у мэтро шмат бабулек, якія гандлююць папяросамі, капустаю, штучнымі і жывымі кветкамі. Увогуле, у розных такіх бабулек можна набыць розныя вельмі зручныя рэчы – ад падробнага праязнога да працоўнае кніжкі з дыплёмам (хаця ніхто ня дасьць гарантыі, што гэтыя праязны будзе працаваць). Ёсьць, канечне, і такія бабулькі, што нічым не гандлююць, а проста жабруюць, хто сама, хто з сабакам, хто з унучкам. А натоўп ляціць міма. «Масква сьлязам ня верыць». Улетку адчыняюць сэзон жабрацтва таджыкі з цыганамі, тады будзь пільны!

«Асьцярожна, дзьверы зачыняюцца, наступная станцыя...» Пачуўшы гэтыя словы, хутчэй заскоквай у вагон, бо яны сапраўды вобмельгам зачыняцца – ніхто ў маскоўскім мэтро цябе чакаць ня будзе, праз хвіліну будзе ехаць наступны цягнік. У вагоне ўсе стаяць, як ім заманецца, хоць стаўпамі насупраць выхаду. Народ варушыцца, нехта выходзіць, нехта заходзіць – усім пляваць. Масква сама – такі суцэльны вакзал. Нехта прыязджае, нехта ад'язджае, ёй усё адно, яна не заўважыць. Вось на плятформе сварка, потым бойка... Натоўп жа йдзе сваёй дарогаю далей – самі разьбяруцца! О, нам з табою пашанцавала: бойка на плятформе – рэч даволі рэдкая. Такое ўражаньне!

Ну, хадзем на піва, а тады – на Беларускі вакзал, і «адзінкаю» дадому.

**Дзядзька Антось**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ РАСЕЙСКАЯ ПАПСА

Расейскі поп-сьпявак Філіп Кіркораў абразіў беларускіх міліцыянтаў, якія ахоўвалі ягоны менскі канцэрт. «Альфа-радыё» ў сераду прынесла прабачэньні і міліцыі, і гледачам за «недастойныя паводзіны госьця». Кіркораў абазваў міліцыянтаў, што ўтаймоўвалі ўтрапёных гледачоў, «палітычнымі прастытуткамі». Міліцыянты яму гэтага не даравалі і пасьля канцэрту раскідалі ягоную прыватную ахову і затрымалі сьпевака, пагражаючы арыштам. Той быў зьбянтэжаны — праз гадзіну ў яго ішоў цягнік на Маскву — дык мусіў прынародна прыніжана выбачацца.

Міліцыя дзейнічала жорстка, але паводле ўстаноўленых у нас законным чынам прынятых правілаў правядзеньня канцэртаў. Для гасьцёў з Расеі, дзе даўно ніякай улады ні законаў не засталося і ўсё вырашаюць грошы, гэта было нечакана і здавалася нават дзіка.

Беларуская міліцыя, найбольшая ваенізаваная сіла краіны, усё больш адчувае ўласную сілу.



*Пахаваньне Білазіра.*

А эстрада зноў прымусіла задумацца пра тое, як у беларусаў з расейцамі «мая твая не панімает».

Але гэта проста дробязі ў параўнаньні з тым, якія падзеі вакол маскоўскай эстрады цяпер разьвіваюцца ў суседняй Украіне. Зьнікненьне ў падваротнях вулічных прадаўцоў расейскай папсы, беспарадкі ў Львове ў апошнія дні, ледзь не сарваны ў Кіеве на пачатку чэрвеня канцэрт Дзімы Малікава...

Усплёск радыкальных настрояў украінскай моладзі справакаваны жудаснай гісторыяй, што адбылася ў Львове яшчэ 8 траўня. У той дзень у адну з львоўскіх кавярняў зайшоў вядомы кампазытар і эстрадны выканаўца Ігар Білазір (часта выступаў разам з жонкай — Аксанай Білазір). У кавярні разгарэлася спрэчка паміж двума іншымі наведнікамі ды бармэнам: падпітыя наведнікі эмацыйна патрабавалі паставіць ім расейскія песьні Шуфуцінскага, Міхаіла Круга ці які-небудзь іншы «блатняк». Паводле словаў відавочцаў, Ігар Білазір умяшаўся ў спрэчку й папрабаваў давесьці прыхільнікам блатных песень, што ўва Ўкраіне можна слухаць нешта больш прыстойнае. Канфлікт неўзабаве, здавалася, быў вычарпаны. Але, прычакаўшы, калі кампазытар выйдзе, двое злодзеяў кінуліся біць яго на вуліцы жалезнымі прутамі. Пакуль прыехала міліцыя, Білазір ужо ляжаў з праламаным чэрапам. Тры тыдні сьпявак знаходзіўся ў каматозным стане і ўрэшце памёр у шпіталі.

Злачынцаў затрымала міліцыя тамсама, на месцы. Неадкладна завялі крымінальную справу, але — вось дзіва! — на раніцу абодвух адпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе. Высьветлілася, што адзін з нападнікаў, Дзьмітры Воранаў, старшы лейтэнант украінскага войска — сын намесьніка начальніка львоўскай гарадзкой міліцыі. На момант інцыдэнту Воранаў-малодшы падаў дакумэнты на паступленьне ў ваенна-дыпламатычную акадэмію. Ягоны падзельнік, адстаўны афіцэр Юры Калінін, ужо на другі дзень пасьля дачы падпіскі зьнік невядома куды. Гэтыя чалавек, калі верыць чуткам пра яго, нібыта мае прамое дачыненьне да гандлю зброяй.

Пахаваньне Ігара Білазіра 30 траўня вылілася ў стыхійны мітынг. Ягоны зьмест быў, зразумела, ня толькі антырасейскі, але і «антымянтоўскі». Пасьля пахаваньня разьюшаны натоўп людзей кінуўся да ўправы львоўскай міліцыі, думаючы ўзяць зьнянацку будынак штурмам. Тое самае магло б чакаць і пракуратуру, якая ніяк не адрэагавала на пакрываньне міліцыяй цяжкага злачынства. Штурм не адбыўся, у натоўпе не знайшлося кіраўніка.

Львоўскія дэпутаты й прадстаўнікі мэрыі тут жа прыбылі на месца беспарадкаў ды сьлёзна пабяцалі правесьці сьледзтва й справядлівы суд. Аднак многія жыхары места ня вераць абяцаньням уладаў. 8 чэрвеня, на дзевяць дзён са сьмерці забітага, нацыянальна сьвядомыя львавяне адзначылі чорную дату мітынгам. Улады напярэдадні рыхтаваліся да вялікіх беспарадкаў: у Львоў былі сьцягнутыя войскі і спэцсілы міліцыі з усяе Ўкраіны. Расейская музыка цяпер у Львове persona non grata.

**Тацяна Сьнітко**

# 100 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ

## Хатні канцэрт

*Працяг са старонкі 1*

Пазьней сьпявак ня раз вяртаўся да гэтага вечара ў Ружанах. Слухачы захацелі паглядзець на чалавека, якому прысьвячаецца песьня. «Выцягнулі» маму на сцэну», — кажа сп.Міхал.

Прозьвішча маці — Суміцкая.

Мне цяжка апісваць яго голас. Але ніколі больш я ня чула столькі душы ў песьні, нявыказанага смутку і... павагі да слухачоў. Не заўважыла, калі перастала бачыць рэпрадуктар. «Плытка», як кажа Забэйда, спынілася. «Яшчэ раз?» — правакуе дзядзька Міхась. «Не, — адказваю, — калі ласка, ня трэба». — «Ты не адна, хто просіць аб гэтым». Я ні пра што не пыталася, проста сядзела. Я нават не глядзела на яго. Я баялася гэта зрабіць.

Мне пара адыходзіць... «Дзякуй за тое, што сарвала мае пляны, у пятніцу я буду сьпяваць намнога лепш, — неяк вельмі проста сказаў сп.Міхал і радасна дадаў. — Цяпер я не адзін! Дзевяць месяцаў не адзін! Гэта здорава!»

Праз дзень мы ідзем па запрашальным білеце на канцэрт баўгарскага хору. «Як жа я?» — запыталася. — «Мне дазволілі ўзяць з сабой дачку», — адказвае.

Канцэртная заля Жофін на Славянскім востраве. Забэйда зьвяртае ўвагу на свой гальштук зь беларускім арнамэнтам. «Рыгор Шырма падарыў».

Нядзеля, 14 лістапада 1965 г. Першы выходны, аддадзены сп.Міхалу. Прапануе: «Хочаш, буду табе братам, дзядзькам?» — «А чаму ня бацькам?» — «Баюся, што забярэш усю маю свабоду». Сьмяемся. Спрабую нешта выпытаць пра яго жыцьцё. Твар робіцца сур'ёзным: «Мая Радзіма, мая маці, мае сябры — гэта мае песьні». — «Ці спрабуеце нешта пісаць?» — «Не, шкадую часу. Пакуль магу, буду выказваць усё песьнямі».

Як жа без Нацыянальнага тэатру? Натуральна, прыняла прапанову дзядзькі «паслухаць маіх былых супрацоўнікаў з опэры». Давалі «Дзімітрыя».

На заўтра заплянаваны хатні канцэрт. «Благословляю вас, леса» П.Чайкоўскага гучыць моцна і ўрачыста. Круцім пласьцінку, якая прызнаная лепшай за апошнія пяць гадоў: Міхал Забэйда выконвае Моцарта, Глюка.

Чытаю водгукі прэсы на нядаўнія выступы ў Польшчы.

Міхалова, Мілейчыцы, Бельск, Гайнаўка, Саколка, Гарадок, Беласток — там ня проста пабыў Міхал Забэйда ў часе тыднёвых гастроляў, а «вёў сваіх слухачоў на вяршыню», як пісала Вера Ляўчук, часам ва ўмовах, калі прыходзілася сагравацца, расьціраючы рукі над электрычнай пліткай, што стаяла на сцэне.

І ўсё ж цяжка адразу зразумець, чаму ён адзін, чаму жыве ў такім маленькім пакойчыку, чаму ня едзе ў Менск на сталае жыхарства. Абяцалі, ён казаў, працу ў кансэрваторыі і двухпакаёўку: адзін пакой для інструмэнту, другі — для сну. «Ужо і чамаданы падрыхтаваў», — прызнаўся пазьней. «У мяне была вялікая мэта. Я ішоў да яе ўпарта, ахвяруючы многім. Хацелася даць людзям як мага больш, бо я бачыў, што ім патрэбнае мастацтва як сродак удасканальваньня сябе, сваёй душы. А жыцьцё ня песьціла, часта біла па галаве. Рос адзін, ня меў ніякай падтрымкі, таму прывык спадзявацца на свае сілы. Бывалі часы, калі ня верыў у свае здольнасьці. Так, у Харбіне на два гады закінуў музычную вучобу. І ўсе ж вярнуўся. Ня мог не вярнуцца, хоць працягваў набываць спэцыяльнасьць юрыста, думаў, спатрэбіцца, калі нічога ня выйдзе з артыстычнай кар'еры. Бегаў у Опэрны тэатар на рэпэтыцыі. Марыў і я, як усялякі сьпявак, пра італьянскую школу. Пачаў зьбіраць грошы. Дзесяць гадоў зьбіраў. І вось Мілян. Мой настаўнік — Фэрнанда Карпі, славуты сьпявак і пэдагог. Чатыры гады вучобы зрабілі мяне самастойным. Канцэртаваў у опэры, выяжджаў у розныя гарады Італіі».



*Міхась Забэйда-Суміцкі ў пакойчыку на Польскай, 12. 1976 год.*

«Мэлёман» (так падпісаны артыкул у «Беларускай газэце», 1942, № 75) пісаў: «Шэдэўрам вакальнага майстэрства зьявілася італьянская песьня «Spira te pur spirate» («Вейце, вейце») Донаўды, у якой лёгкасьць, усъпаветранасьць дасягаюць сваёй мяжы, дзе гук сьпевака лунае ў залі, як лягуткі летні ветрык італьянскага ўзьбярэжжа, дзе і нарадзілася гэта цудоўная песьня. Сьпявак выканаў яе так, як можа выканаць толькі чалавек, які парадніўся з Італіяй, чалавек, які запраўды апанаваў усімі таямніцамі італьянскіх вакалістаў. І далей: «Што ж сказаць пра родную беларускую песьню? Лепш выканаць яе, здаецца, немагчыма».

Дзядзька Міхась працягвае. «Мне прапанавалі застацца ў Міляне. Але далёка ў Беларусі мяне чакала паміраючая мама. Я ж адзін у яе застаўся, усе астатнія шасьцёра дзяцей памерлі, хто ад сухотаў, хто яшчэ ад чаго».

Раптам змаўкае і просіць: «Пачытай што-небудзь». І я чытаю, часьцей вершы.

Хатнія канцэрты сталі звыклымі, але ніколі не былі звычайнымі. Дзядзька Міхась ад-

## ХАРБІН. ПАЧАТАК САМОТЫ

Хвалі Індыйскага акіяну разразаў камфартабэльны параплаў. Ён вёз сваіх пасажыраў з Шанхаю ў далёкую Вэнэцыю праз Ганконг, Сынгапур, Бамбэй, Калёмба, Порт-Саід. Падарожжа было доўгім, і пасажыры, каб не засумаваць, самі ладзілі сабе забавы. Асабліваю папулярнасьцю карысталіся імправізаваныя канцэрты, на якіх мог выступіць кожны, хто жадаў. І на кожным з такіх канцэртаў публіка зь нецярплівасьцю чакала выхаду маладога чалавека з адкрытым тварам і добрай усьмешкай. Ягоны дзівосны пералівісты голас нібы ахопліваў музыку усёй сваёй гарачай сілай. Гэта быў Міхась Забэйда.

Паваротным момантам у ягоным жыцьці стала сустрэча з расейскай сьпявачкай, былой партнэркай Шаляпіна Юліяй Плотніцкай. Адбылося гэта ў Харбіне, куды ўцёк зь Сібіры ад грамадзянскай вайны малады настаўнік. Два гады Забэйда вучыўся ў яе пастаноўцы голасу. «Толькі Вам, мілы, — казала яму старая прафсарка, — я хачу перадаць усё тое, што ведаю і на што здольная, бо не хачу, каб гэта ўсё сышло з мною ў магілу». А здольная яна была на многае. Плотніцкая так умела паказаць зьмест, глыбіню і выразнасьць твору, што Забэйда, зь яго ўласных словаў, «купаўся ў алеі вакальнага мастацтва». Плотніцкая абудзіла ў Міхася першыя, яшчэ нясьмелыя думкі аб Італіі, калысцы опэры, радзіме чароўнага bel canto. Менавіта Плотніцкая выдасьць яму рэкамэндацыйны ліст, зь якім ён пазьней і паедзе ў La Scala:

«Міхаіл Іванавіч Забэйда займаўся ў мяне паўтара гады і выказаў значныя музычныя і вакальныя здольнасьці. Голас у яго вялікі і шырокі, у аснове зь вялікім запасам мэталу, звонкі і яскравы. Надзвычайны слых і музычная памяць, голас гнуткі, паддаецца тэхніцы.

У мяне ён дасягнуў цудоўнага піяна, філіраваньня гукаў і вольнага валоданьня дыханьнем на дыяфрагме. У яго вялікія здольнасьці да музычнае фазы, да мастацкага вытлумачэньня твораў, якія ён выконвае, добрая дыкцыя і хуткае засвойваньне самых складаных нюансаў. Адным словам, пры настойлівай працы і плянамерных занятках у добрага й дасьведчанага прафэсара, пры ўсіх ягоных вышэй згаданых дадзеных, ён можа зрабіць бліскучую кар'еру опэрнага сьпевака».

Пакуль жа Забэйду праслухоўвалі мэтры Харбінскага опэрнага тэатру. Але ад сцэны Міхась пакуль адмаўляўся: «...Чым далей займаўся, тым менш быў задаволены сабой, тым менш у сябе верыў. Стамляла праца ў школе, асабліва моцна адбіваючыся на горле, і я ня мог сьпяваць так, як хацеў, так, як сабе ўяўляў».

Замест таго, каб інтэнсыўна працаваць над сваім голасам, Забэйда паступіў на эканамічнае аддзяленьне юрыдычнага факультэту Харбінскага ўнівэрсытэту, спалучаючы вучобу з працай у школе. Так працягвалася некалькі гадоў.

Цяжка сказаць, які быў бы канчатковы выбар Забэйды, калі б ён і далей вагаўся. Але ў 1929 годзе за ўдзел у страйку салідарнасьці з СССР яго звольнілі з працы ў гандлёвай школе. Трэ было шукаць новае месца, і малады сьпявак рушыў у Харбінскую опэру. Спачатку яму адмовілі: трупа была ўкамплектаваная. Але неўзабаве разгарэўся скандал: бас Шумілін, які павінен быў выконваць партыю млынара, парушыў умовы кантракту, адмовіўся выступаць і ад'ехаў у Шанхай. Адкрыцьцё сэзону было пад пагрозай зрыву. Вырашылі ставіць замест «Русалкі» «Яўгена Анегіна»: у тэатры быў добры барытон Л.Вітэльс, які мог цудоўна выканаць партыю Анегіна. Пачалі шукаць Ленскага. І тады адміністрацыя тэатра ўзгадала пра М.Забэйду.

Прэм'ера была ўдалай. Публіцы малады саліст відавочна спадабаўся. За ўсю гісторыю Харбінскай опэры ў ёй не было больш такога «зорнага» дэбюту. Цяпер малады артыст «прапісаўся» ў трупе, выцягваючы ўвесь рэпэртуар лірычнага тэнара. За тры гады, аддадзеныя Харбінскаму тэатру, ён выканаў 15 роляў: Ленскі («Яўген Анегін» П.Чайкоўскага), Сінадал («Дэман» А.Рубінштэйна), Уладзімер Ігаравіч («Князь Ігар» А.Барадзіна), Пінкертан («Мадам Батэрфляй» Д.Пучыні), Генадзь («Ноч каханьня» Валянцінава), Арлекін Пэпэ («Паяцы» Р.Леанкавалё), Індыйскі Госьць («Садко» М.Рымскага-Корсакава), Граф Альмавіва («Сэвільскі цырульнік» Д.Расіні), Фаўст («Фаўст» Ш.Гуно), Лыкаў («Царская нявеста» М.Рымскага-Корсакава), Альфрэд («Травіята» Д.Вэрдзі), Князь («Русалка» А.Даргамыжскага), Цар Берандзей («Сьнягурка» М.Рымскага-Корсакава), Уладзімер («Чарадзейка» П.Чайкоўскага), Рудольф («Багема» Д.Пучыні).

Якую б ролю ў тэатры ён ні выконваў, крытыка была ў захапленьні.

За фасадам славы была непасільная праца. Каб сур'ёзна займацца сьпевамі, патрэбныя былі матар'яльныя сродкі. Таму прыходзілася выступленьні ў опэрным тэатры спалучаць з настаўніцкай працай. Сьпявак фактычна ня меў ні часу, ні сродкаў, каб даць сабе хоць нейкі адпачынак.

Да ўсяго пачаліся праблемы з здароўем. У дваццаць пяць гадоў у Забэйды пачаўся паталягічны працэс у лёгкіх. Трэ было берагчы горла, і Забэйда вымушаны вечна атуляць шыю, баіцца дрэннага надвор'я, ён ня п'е і ня паліць, бо гэта шкодзіць голасу, і наагул вельмі асьцярожны ўва ўсім. «...Каб даваць людзям радасьць сваімі сьпевамі, — пісаў ён пазьней Зосьцы Верас, — я мусіў трымацца далей ад людзей, хоць вельмі іх любіў. Гэтая неабходнасьць (трымацца далей ад людзей) вельмі перашкаджала мне ў артыстычнай кар'еры, але памагала даваць лепшыя працоўныя вынікі». Так мастацтва на ўсё жыцьцё зрабіла яго самотным.

Міхась Забэйда любіў паўтараць словы Дантэ: «У хвіліны радасьці мусім збудаваць мост, каб маглі па ім прайсьці, калі наша гора выклiча ў нас рэкі сьлёзаў». Ягоным мастом была музыка.

Забэйда адкладае грошы з свайго сьціплага заробку, каб паехаць у Італію. «Цяпер дзіўлюся, — успамінаў ён на схіле дзён, — як адважыўся паехаць у Італію, ня маючы аніякай матар'яльнай падтрымкі. Меў вялікае шчасьце, што не загінуў».

У 1932 годзе Міхась Забэйда пакінуў Харбін, узышоў на акіянскі параплаў і адплыў у поўнае трывог і хваляваньняў падарожжа. Сьмелы быў чалавек.

**Францішак Корзун**



*Шаноўныя спадарства,*

**запрашаем на вечарыну, прысьвечаную 100-м угодкам з дня нараджэньня Міхася Забэйды-Суміцкага, сусьветна вядомага беларускага сьпевака.**

Чакаем Вас у Доме дружбы (Захарава, 28) 14 чэрвеня 2000 году а 18-й гадзіне.

# МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

нойчы паабяцаў узяць мяне з сабой і на канцэрт, але папярэдзіў: «Перад канцэртам я бываю страшны, табе цяжка будзе ля мяне. Я ніколі нікога ня браў на свой канцэрт».

Дата прызначаная — 18 лютага (1966 г.). Будзем выступаць у Багданчы, што каля 100 кілямэтраў ад Прагі. Выяжджаем аўтамабілем на пачатку пятай вечара. Перад выездам маэстра правярае ноты, яшчэ некалькі разоў рэпэтуе. Прызнацца, гэта мяне зьдзіўляе, бо песьні будуць тыя, што сьпяваў дзясяткі, а то й сотні разоў. Спакаваны канцэртны касьцюм. Едзем. Усю дарогу сп.Міхал маўчыць, толькі некалькімі словамі перакідваецца з акампаніятарам Губічкам. Спахмурнелы твар артыста прымушае ўспомніць пра папярэджаньне і маўчаць. Толькі на наступны дзень высьветліла, што прычынай, акрамя напружанасьці, быў акампаніятар, які не зазірнуў у ноты перад канцэртам.

Канцэрт. Дзе дзеўся рахманы, мяккі, дабрадушны дзядзька Міхась! Строгі маэстра, аказваецца, яшчэ й рэжысэр, і канфэрансье. Кароткія тлумачэньні па-чэску, чаргаваньне малазнаёмых мэлёдыяў з папулярнымі, клясыкі й народных песень, на розных мовах. Моцнымі воплескамі заля патрабуе яшчэ песень на беларускай мове. «Лявоніха» павінна была завяршыць гэты вечар. Яе сьпявала ўся заля.

Міхал Забэйда гаварыў:

«На кожны канцэрт я іду, як на бой. Мне прыходзіцца змагацца за кожнага слухача. Такія ўмовы. Мая зброя — мастацтва, а яе трэба чысьціць і вастрыць рэгулярна. Каб ты ведала, якія хвіліны я перажыў у часе гастроляў у Беларусі! Дзяўчаты з Маладачаншчыны кінулі мне пад ногі ахапак маладога жыта з васількамі і сказалі: «Беларускаму салаўю — кветкі нашых палёў». Не, такое не забываецца!»

Менск, Віцебск, Горадня, Магілёў, Гомель, Слонім, Ваўкавыск, Ліда, Баранавічы...

Нядзеля, 13 сакавіка. Абедалі ў рэстаране Nad rozhlasem. Чыталі «Жыцьцё Бэтговэна» Рамэна Раляна, «Радыюс дзеяньня» Робэрта Раждзественскага. Глядзелі хакей. Увечары хадзілі на «Дуэнью» Пракоф’ева.

Празь месяц у Браціславе цэлы канцэрт беларускай песьні (і сучаснай літаратуры). Акрылены і стомлены вярнуўся з Славаччыны. «Уяўляеш, 24 беларускія песьні адсьпяваў!»

14 траўня. Зьдзейсьнілі экскурсію на гару Петршын, зь якой відаць увесь горад. Праўда, не працаваў фунікулёр, і мы не падняліся на самы высокі пункт, але на залатую Прагу ў промнях вечаровага сонца паўглядаліся з розных бакоў. Доўга разгадвалі, дзе што разьмешчана. Забэйда адразу пазнаў свой Рыгровы парк і мадэрновую агромністую будыніну сацыяльнага забесьпячэньня.

Надыхаліся пахамі бэзу, каштанаў, сьвежага сена і даўніны. Амаль усё адцьвітае, але яшчэ вельмі прыгожа. Ніколі ня бачыла такіх гіганцкіх сымэтрычных каштанаў, такога фантастычнага спалучэньня фарбаў у рададэндронаў.

Пасьля вячэры музыка. Слухалі перадачы з «Праскай вясны».

Нечакана прапанаваў: «Давай навучу цябе сьпяваць». Засьмяялася. Але прафэсар глядзеў так сур’ёзна, што я гатовая была паверыць: ён навучыць сьпеву любога.

Чыталі ліст Ніла Гілевіча: «Замены Вам няма, і ў хуткім часе не прадбачыцца». Ведаем, што гэта праўда.

Маэстра расказвае з горыччу: «Усюды, дзе бываю, раблю пласьцінкі, усюды, акрамя Беларусі». Ён усё яшчэ спадзяваўся, што Менская філярмонія, як абяцала, дасьць яму сваю сцэну. На гэтую надзею давалі яму права поўныя захапленьня лісты зь Беларусі ад сяброў, знаёмых і незнаёмых людзей, якім пашчасьціла слухаць яго пад час гастроляў вясной 1963-га. Ён верыў моладзі, якая яго моцна тады пацешыла і ўзрушыла.

12 чэрвеня 1966 г. Сёньня дзядзька Міхась асабліва добры, прыемны, шчыры, уважлівы. Абед на Італьянскай і традыцыйная прагулка па Рыгровым парку. Шукае «сваіх» шпакоў. «Люблю я іх дужа. Яны такія спрытныя, руплівыя».

-- Давай зробім сьвята, — нечакана прапануе.

Выпілі па кілішку чырвонага віна. Нават сам выпіў (першы раз за восем месяцаў). Потым усё было, як у раі: грэйпфруты, чарэшні, трускалкі, кампот.

14 чэрвеня. Дзень нараджэньня. Ружы, беларускі ручнік, кніга Мележа ад Славы Рагойшы і Лявона Акаловіча.

22 чэрвеня. Малая заля Дому мастакоў. Канцэрт песьні і паэзіі Рабіндраната Тагора. Міхал Забэйда сьпявае па-бэнгальску. «Зьдзіўляесься? — хітра пытаецца. — Гэта ж 18-я мова, на якой я буду сьпяваць. Нехта адмовіўся, а мне нельга».

Перабіраем паперы. Затрымліваю ўвагу на дакумэнце, на якім стаіць нумар 18: заключны замежны канцэрт сэзону 1962—63. Міхал Забэйда — тэнар (народжаны: Беларуская ССР), госьць Мілянскай і Варшаўскай опэры і Нацыянальнага тэатру, з праграмай песень майстэрскіх і народных усяго сьвету на мовах карэннага насельніцтва. Німбурц, вялікая заля, пятніца, 25 красавіка 1963 г. у 19.30.

У праграме 6 цыкляў. Першы прадстаўлены прозьвішчамі: Кальдара, Джардані, Моцарт, Бэтговэн, другі: Сметана, Дворжак, Фібіх, Чайкоўскі, трэці: Аладаў, Туранкоў, Траян, Марціні, Гурнік. Пасьля паўзы яшчэ тры цыклі. Перадапошні ўключае песьню сібірскіх вязьняў Каратыгіна, украінскую Лысенкі, польскую Нававенскага і «Калыханку» ў апрацоўцы Пека.

Натрапіла на брашуру Бакача і Лісеца «Беларускі сьпявак Забэйда-Суміцкі і яго радзіма», выдадзеную ў Празе беларускім культурным таварыствам у 1940 годзе. «Калі ў Кепуры стыхія голасу забівае душу, зводзіць усё да нямецкае халоднасьці, то ў Забэйды-Суміцкага наадварот — голас разам са словам служыць для выяўленьня ўсіх тых адценьняў, нават самых далікатных і тонкіх у перажываньнях і настроях, якія захаваны ў песьнях», — пісаў Рыгор Шырма («Калосьсе», 1937, № 2(11)).

31 ліпеня. Апошні тыдзень майго побыту ў Празе. Надвор’е цудоўнае. Апошні раз глядзім на панараму гораду. Падыходзім да кіёску з марожаным. «Ніколі ня еў, — прызнаецца Міхал Іванавіч, — але чаго ня зробіш дзеля зямлячкі».

Сядаем на лаўку. Птушкі ўскокваюць на калені, на рукі. Заплюшчыўшы вочы, маэстра слухае шэпт лісьця (быў вялікі вецер). «Я ў Менску, бачу яго вуліцы, бачу Танка, Шырму, Брыля, Скрыгана, Мележа, Гілевіча, Лойку, Семяжона, Панчанку...» І раптам: «Добры дзень, мае шпакі».

...Жменя роднай зямлі цяпер ляжыць на месцы яго апошняга прыстанішча. А можа не апошняга? Ён так хацеў у Беларусь...

Любамір Кастэцкі апавядае пра апошнія дні майстра. «Мы прасілі яго не выходзіць з дому без суправаджэньня. Пасьлізнуўся. Каб ня гэты пералом, мог бы яшчэ пажыць».




У пятніцу ў кнігарнях і шапіках зьявіўся новы нумар часопіса ARCHE, прысьвечаны беларускім жыдам і беларуска-жыдоўскаму дыялёгу. Выданьне саліднае, 296 старонак часопіснага фармату. Адкрываецца нумар новым апытаньнем ARCHE. Гэтым разам грамадзкія і палітычныя дзеячы й навукоўцы Беларусі і іншых краінаў разважаюць, ці ёсьць Рэспубліка Беларусь незалежнай дзяржавай. У рубрыцы «Кніга» друкуецца раман Джэрама Чарына «Чарнавокая задумлёнка з Магілёва» ў перакладзе Ніны Мацяш, а побач – хрэстаматыйнае апавяданьне Ісаака Башэвіса Зынгера «Карона зь пер'я» ў перакладзе Алеся Анціпенкі і прыпавесьць Марціна Бубэра «Мэнахем Мэндэль зь Віцебску» ў перакладзе Валеркі Булгакава. Тэматычная ж падборка ARCHE адкрываецца эсэ Зьмітрака Бядулі «Жыды на Беларусі». Віталь Зайка ў бліскучым эсэ раздвойваецца на Віталя й Файтла. Вольф Рубінчык піша пра габрэйскі Інтэрнэт, Галіна Сініла – пра габрэяў як «народ кнігі». Аляксандар Астравух публікуе кароткі ідыш-беларускі слоўнік прыказак і прымавак. Поль Вэксьлер разьвівае сваю рэвалюцыйную гіпотэзу пра тое, што ідыш – гэта славянская мова. Дэніс Прэгер сьцьвярджае, што юдаізм спрычыніў сапраўдную сэксуальную рэвалюцыю, упарадкаваўшы сэксуальныя дачыненьні і ўпершыню наклаўшы забарону на гомасэксуалізм. Станіслаў Краеўскі параўноўвае юдаізм і хрысьціянства. Сакрат Яновіч выступае з эсэ «Усе мы патроху жыды», Адам Глёбус – з эсэ «Тутэйшыя», таксама, зразумела, пра «іх». У нумары друкуюцца вершы патрыярха беларускай габрэйскай паэзіі Гірша Рэлеса, Андрэя Хадановіча, Віталя Стахіевіча, Хаіма-Нахмана Бяліка ў перакладзе Рыгора Барадуліна – Барадулін жа напісаў і прадмову да нумару. Ілюстраваны нумар невядомай раней графікай Ізраіля Басава, якую прадстаўляе Ларыса Фінкельштэйн.

## каляндар



Зьміцер Полазаў. Янка Купала, 1921

**10 чэрвеня 1925 г.** пастановай Савету народных камісараў БССР Янку Купалу прысвоілі званьне народнага паэта Беларусі ў сувязі з 20-годзьдзем ягонай творчай дзейнасьці. У 1925 г. Купала працягваў свабодна выказваць свае думкі. На антыбеларускія тэндэнцыі ў газэце «Савецкая Беларусь» ён адгукнуўся вершам «Акоў паломаных жандар...»

**13 чэрвеня 1825 г.** нарадзіўся Ўолтэр Гант, які вынайшаў бясьпечную шпільку. Містэр Гант мусіў тэрмінова аддаць пазыку — 15 даляраў, аднак грошай да тэрміну не знайшоў. Ягонае становішча было больш чым катастрафічнае. У апошні дзень тэрміну Ўолтэр Гант сеў, добра падумаў і праз тры гадзіны вынайшаў неабходную кожнаму чалавеку драбязу. Ён прадаў патэнт на шпільку за 400 даляраў (па тых часах шалёныя грошы).

**14 чэрвеня 1800 г.** французскія войскі пад кіраўніцтвам Напалеона разграмілі значна большае аўстрыйскае войска пад Марэнга, што ў Паўночнай Італіі. У выніку паразы аўстрыйцы вымушаныя былі пакінуць Паўночную Італію. Тры гады раней з ініцыятывы генэрала Рэчы Паспалітай Яна Дамброўскага былі створаныя польскія легіёны пры французкай напалеонаўскай арміі. Легіёны Дамброўскага ўдзельнічалі ў баях з аўстрыйскай і расейскай арміяй у Італіі. У бітве пры Марэнга легіёны ўдзелу ня бралі. А ў хуткім часе іх перакінулі на Гаіці змагацца з паўстанцамі-тубыльцамі.

**17 чэрвеня 1900 г.** нарадзіўся райхсляйтэр Марцін Борман, адзін з кіраўнікоў нацысцкай Нямеччыны, «цень Гітлера», кіраўнік партыйнай канцылярыі нацыянал-сацыялістаў. У траўні 1945 г., калі савецкія войскі ўжо стаялі ў Бэрліне, Марцін Борман... патаемна зьнік. Куды ён падзеўся, да гэтага часу невядома. Паводле адной з вэрсіяў, ён шчасьліва дажываў свае гады на адной з фэрмаў у Паўднёвай Амэрыцы. У канцы 80-х у савецкай прэсе зьявілася гіпотэза, што Борман быў савецкім разьведчыкам і пасьля капітуляцыі Нямеччыны вярнуўся ў Савецкі Саюз, дзе жыў да сьмерці на лецішчы пад Масквою.

**Каля 1450 г.** памёр Рыгор Цамблак, рэлігійны дзяяч Вялікага Княства Літоўскага. Цамблак, выхадзец са знатнага баўгарскага роду і выхаванец канстантынопальскага патрыярха Яўхімія, у 1409 г. пасяліўся ў Кіеве, што быў у складзе Вялікага Княства Літоўскага. Тут у Кіеве ён пазнаёміўся зь вялікім князем Літоўскім Вітаўтам, прыхільнікам стварэньня ў Вялікім Княстве незалежнай праваслаўнай мітраполіі. У 1414 г. з ініцыятывы Вітаўта быў склікaны сабор праваслаўных япіскапаў ВКЛ, які вылучыў Цамблака на пасаду мітрапаліта. Цамблак паехаў у Канстантынопаль, каб там юрыдычна пацьвердзіць прызначэньне, але патрыярх катэгарычна адмовіўся прызнаць яго мітрапалітам. Тады сабор заходнярускіх япіскапаў зацьвердзіў Рыгора Цамблака мітрапалітам кіеўскім і літоўскім. У 1416 г. Цамблак заснаваў у Вільні катэдру, а сваёй рэзыдэнцыяй зрабіў Навагрудак. Праз два гады на чале дэлегацыі з трохсот ярархаў выехаў на Канстанцкі сабор, дзе выступіў з прывітальнымі прамовамі ў гонар новага папы Марціна V. Частка вялікакняскіх япіскапаў, як і маскоўскіх праваслаўных дзеячоў адмоўна ўспрынялі стварэньне літоўскай мітраполіі, да таго ж Цамблака абвінавацілі ў хаўрусе з папам рымскім. Пасьля 1419 г. зьвесткі пра яго губляюцца. Паводле адной з вэрсіяў ён пакінуў у тым жа годзе літоўскую катэдру і зьехаў у Малдову, дзе жыў самотна ў манастыры аж да сьмерці ў 1450 г.



**У 1750** г. у в.Пяцеўшчына ля Менску нарадзіўся Ігнацы Быкоўскі. Ігнацы рана страціў бацьку, і брат аддаў яго ў менскую езуіцкую школу. У 1765 г. Ігнацы Быкоўскі паступіў у піярскую школу ў Віцебску, але скончыць яе не ўдалося. У 1766 г. пасьля сьмерці маці Быкоўскі пераехаў у спадчынны маёнтак на Падольле і заняўся гаспадарчымі справамі. Пасьля паўстаньня Барскай канфэдэрацыі Ігнацы далучыўся да яе, але пасьля некалькіх паразаў у баях з расейскімі войскамі і раненьня Ігнацы Быкоўскі прыходзіць да высновы, што зусім ня ўмее ваяваць і мае патрэбу ў навучаньні. І ён паступае... ў расейскую армію, дзе пад камандаваньнем Суворава і Румянцава бярэ ўдзел у турэцкіх войнах. Пасьля кантузіі ў 1775 г. ён вярнуўся ў Рэч Паспалітую, займаўся перакладамі, перакладаў на польскую мову Вальтэра, Сумарокава, пісаў сэнтымэнталісцкія вершы, паэмы. Ігнацы Быкоўскі пакінуў нам таксама філязофскія творы, дзёньнікі, мэмуары, эпісталярную спадчыну.

**Алег Гардзіенка**

# ХАРАЛ «А ХТО ТАМ ІДЗЕ?»

Некалі, яшчэ зусім маладым, я задумаў напісаць кніжку-дасьледаваньне пра адзін верш. Гэтым вершам я акрэсьліў сабе славуты купалаўскі шэдэўр «А хто там ідзе?» І зразумела, чаму. Зь юнацкіх гадоў мяне хваляваў лёс нашага народу, яго гісторыя, будучыня, наступствы. Тады ж зь юнацкім імпэтам пачаў турбаваць усіх, каго льга было яшчэ патурбаваць, хто яшчэ памятаў пра той час, калі гэты верш нарадзіўся і зажыў актыўным грамадзкім і літаратурным жыцьцём. Гэтак я патрывожыў Паўліну Мядзёлку, Канстанцыю Буйло, Васіля Гарбацэвіча, Гаўрылу Гарэцкага, дочак Альбэрта Паўловіча, Пётру Сергіевіча, Міхася Забэйду, а таксама перакладчыкаў «А хто там ідзе?» на мовы народаў сьвету: Міколу Врауна, Міхася Ісакоўскага, Альбінаса Жукаўскаса, Мустая Карыма, Уолтара Мэя і шмат каго іншых. За сямідзясятыя гады ў мяне намножыўся досыць цікавы летапіс славутага Купалавага твору. Частку гэтага свайго жывога збору я апублікаваў у часопісе «Нёман», у «ЛіМе», «Голасе Радзімы». Частка ж і да сёньня невядомая нашаму люду. Напрыклад, успаміны Зоські Верас і ўнука Францішка Багушэвіча Зыгмунта Абрамовіча. Зосьцы Верас і Зыгмунту Абрамовічу выпала ў адну пару вучыцца ў адной і той жа гімназіі, стварыць адзін і той жа гуртoк гарадзенскай вучнёўскай моладзі. Менавіта славуты купалаўскі верш, ягоны грамадзянскі патас і паклікаў да жыцьця згаданы маладзёвы гурток. Абодва і творча дэбютавалі ў нашаніўскую пару і праз «Нашу Ніву».

### Зоська Верас:

*(31/VIII.76) «Учора атрымала Ваш ліст. Сьпяшаюся адказаць. Каб усё для Вас было ясна, мушу пачаць ад кароткай весткі аб Гарадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі.*

*Гэты нелегальны Гурток быў заснаваны ўвосені 1909 г. ...*

*— Вось гэты наш Гурток 19 лютага 1910 г. ладзіў спэктакль-вечарыну і тады першы раз у Горадні пяялі «А хто там ідзе». — Пяялі на 2 галасы. Юзя Касацкая і Зыгмунт Абарамовіч.*

*Уражаньне на ўсіх словы паэта зрабілі вялікае... Настрой быў узьнёслы і паважны. Дагэтуль помню... — Я жыву ў Вільні ад 1923 г. — Хіба і тут на канцэртах «А хто там ідзе» можна было пачуць. — Аб гэтым найлепш Вам скажуць Р.Шырма ды Янка Хвораст.*

*Мой калега з Гуртку Зыгмунт Абрамовіч — мой равесьнік. Нам па 84 гады... Працаваў у трупе І.Буйніцкага. Магчыма, ён мог бы сказаць што цікавае аб вершы «А хто там ідзе». — Мо ён уваходзіў у рэпэртуар трупы? Раджу Вам напісаць, запытацца.*

*— З. Абрамовіч жыве даўна ў Польшчы, але мовы не забывае. Адрас падаю у канцы ліста.*

*— Калі б Вы да яго пісалі, спашлецеся на мяне, а мне паведамце, то я таксама да яго напішу, падганю, каб Вам адказаў. Ён часта хварэе, але ўсё ж да мяне піша».*

Клопаты Зоські Верас былі недарэмныя, нямарныя. Праз пэўны час Зыгмунт Абрамовіч адгукнуўся на маю просьбу і прыслаў досыць разгорнутыя ўспаміны пра творчае жыцьцё купалавага верша «А хто там ідзе?» і пра яго эпоху.

### Зыгмунт Абрамовіч:

*«Шматгодзьдзе прайшло ад таго дня, калі ў гарадзенскіх кляштарных мурах я перш-наперш прачытаў, а пасьля вывучыўся пяяць незабыўны, сумны, як тагачаснае жыцьцё беларусаў, купалаўскі верш «А хто там ідзе?»*

*У сёньня ўжо гістарычным гуртку беларускай моладзі, які здолеў выклікаць да жыцьця і нелегальнай дзейнасьці Ф.Грынкевіч, — «А хто там ідзе?» чутно было амаль штодзённа. Прамаўлялі да нас і словы-тэкст і балючы зьмест — і музыка, якую зь вялікім зразуменьнем напісаў таленавіты кампазытар Л.Рагоўскі.*

*Аднак я, маючы імкненьне (мо акцёрскае) да больш глыбокіх аналізаў, да падрабязнага разварушваньня матэрыялу, які трэба было выконваць, зацікавіўся пытаньнем — чым жа па сутнасьці зьяўляецца «А хто там ідзе?» сярод іншых твораў.*

*Верш даволі незвычайны па форме, нейкая не штодзённая вэрсыфікацыя — гэта ж пытаньні і адказы! А хто пытае і каму сумны рэй нясе гэты адказ?*

*Безумоўна адно: пытае поўны вялікага суму і гневу дапытлівы Пясьняр, адказвае пад'ярэмны, прыгнечаны Народ. З маіх думак я рашуча выкінуў назоў «гімн». Яшчэ не надыйшла пара. Лічыць, што «А хто там ідзе?» — кантата — неяк ні да чаго і ў музычным, і ў зьместавым сэнсах.*

*Купалаўскі верш не даваў мне супакою, пакуль я не знайшоў слова «харал». Я падзяліўся сваёй думкай, і сябры выказалі згоднасьць.*

*Пазьней, ужо акцёрам І.Ц.Буйніцкага, у якога мы на кожным выступленьні пяялі «А хто там ідзе?» — мела характар харалу.*

*У маіх успамінах «Няходжанымі сьцежкамі» (Полымя, красавік 1976, №4) я прысьвяціў купалаўскаму харалу некалькі словаў.*

*Як выконвалі «А хто там ідзе?» у праграмах 1-й Беларускай Трупы?*

*Пытаньне сьпяваў адзін голас — сола. Адказ пяяў хор нясьпешна (leute) — сумна, аднак зь цьвёрдай рашучасьцю ў канцавых радках песьні.*

*Гледачы, якія на 10-15 мінут раней сьмяяліся з выкрутасаў «Моднага Шляхцюка», прыціхалі, калі ў «канцэртнай частцы» пачыналася «А хто там ідзе?»*

*Неяк зьнячэку запаноўвала ціша, не чутно было нават шэпту.*

*Здавалася, што вось зараз усе паўстаюць зь месцаў і песьню Янкі Купалы прыйме глядзельная заля як гімн, як Бацькаўшчыну.*

*Гэта не літаратура — гэта памяць майго старога сэрца.*

*Такі эфэкт быў паўсюль, дзе на сцэнічную плошчу выходзіла «буйніцкая» моладзь.*

*«А хто там ідзе?» я слухаў у сваім родным Слуцку, яго на вечарынках выконвалі вучні Беларускай Гімназіі. Акампанэмэнт вяла маладая вучыцелька родам з Старыцы Любоў Уладзімераўна Ранчэўская, мой шчыры і незабыўны таварыш.*

*Даўно таму ў Наваградку я чуў, што нейкія «патрыёты» зладзілі беларускі сход. Скончыўся дрэнна — прысутныя пачалі выходзіць з памяшканьня, нехта запяяў «Ад веку мы спалі», а з другога канцу залі два-тры галасы — «А хто там ідзе?»*

*Слухаў я на вёсцы каля Стоўпцаў у доме польскай настаўніцы, як моладзь сьпявала купалаўскі харал на зладжанай вечарынцы.*

*У самы цяжкі час гітлераўскага тэрору ў Ашмяне — я прабраўся над рэчку і ішоў побач невялікіх хатак. Ужо вечарэла і хутка надыходзіла «паліцэйская гадзіна». З аднаго дамку зусім ціха чутно было гітару. Зьдзіўлена, ня верачы вушам, я спыніўся. Нехта ціхенька іграў мэлёдыю «А хто там ідзе?»...*

*Я доўга ня мог зразумець, чаму, калі ішла гаворка аб творчасьці Янкі Купалы, якая зьяўляецца высокай магутнай вехай на дарозе беларускага адраджэньня — мяне спыняе нейкі недахоп.*

*І толькі цяпер, калі я напісаў аб маіх «сустрэчах» зь вершам вялікага Песьняра, я зразумеў і знайшоў адказ: рэч у тым, што між дзеячоў беларусаў, якіх я ведаў, гутарыў і меў асабістыя адносіны да іх творчасьці, не было Купалы. Не давялося мне ўбачыць Яго і падзякаваць за ягоную творчасьць.*

*Сягоньня з далёкай Польшчы з нагоды «А хто там ідзе?» я хачу далучыць словы глыбокай пашаны для памяці Янкі Купалы. Яна на стагодзьдзі застанецца сярод усіх, хто любіць беларускі народ, мае пашану да прыгожай мовы продкаў...»*

Перачытваючы згадкі Зоські Верас і Зыгмунта Абрамовіча, думаеш сёньня ня толькі пра тое, што яны згадалі, але і пра іх саміх. Досыць ужо сталага веку, на дзявятым дзесятку, калі ўжо і памяць прыжухлая, і рука не тае трываласьці, як у маладосьці, яны ўсё ж адгукнуліся на маю просьбу, знайшлі сілы, каб занатаваць на паперы найцікавейшыя для нас падзеі з часу нашага нацыянальнага адраджэньня на заранку дваццатага стагодзьдзя. Імі кіравала высокае ўсьведамленьне сваёй адказнасьці перад будучыняй Беларусі, краю. Ім хацелася, каб пра іхныя парываньні ведалі наступныя пакаленьні. І ня проста ведалі, а каб на закладзеным імі нацыянальным падмурку будавалі сьведама велічна дзяржаўны гмах. Зоська Верас, прыкладам, на мае трывогі, ці не занадта я надакучаю ёй сваімі пытаньнямі, звычайна казала: «Не і не! Гэта ж мой сьвяты абавязак, і ня толькі мой, а ўсяго старэйшага пакаленьня расказаць малодшым усё, што вартае нашае гісторыі». І гэта былі праўдзівыя словы.

**Уладзімер Содаль**

# ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ПАПУЛЯРНЫХ ПАМЫЛАК

АСОБЫ

### ДЫЯГЕН ЖЫЎ У БОЧЦЫ

*Дыяген (404-325 да н.э.) ніколі ня жыў у бочцы дзеля таго хацяб, што быў філёзафам, а не вар'ятам. Гэтая байка пра папулярнага й аўтарытэтнага ўжо пры жыцьці грэцкага мысьляра, можа мець адну з наступных крыніцаў: 1) Дыяген меў комплекс віны за зьдзейсьненае ў юнацтве злачынства — падробку грошай і таму жыў у неадэкватна ягоным даходам сьціплым дамку, які багатыя атэнцы насьмешліва называлі «піфас» (бочка); 2) Дыяген меў удосталь зайздросьнікаў і ворагаў — адзін зь іх, вядомы філёзаф-апанэнт, аднойчы сказаў: «Чалавек нагэтулькі ліхадумны мусіць жыць у бочцы, бы пёс». Адтуль і пайшло; 3) Калі Дыяген памёр (апошнія гады ён жыў на Крыце), удзячныя тубыльцы паставілі яму*



*помнік — фігуру сабакі з каштоўнага парскага мармуру. А ў тадышняй Грэцыі жытлом для сабак якраз і служылі старыя бочкі. Дыяген наўрад ці здолеў бы, жывучы ў бочцы, прыдумляць і запісваць свае дыялёгі й навучаць ім сваіх славутых вучняў — Кратэса Фэбскага й Міроклеса.*

### АРХІМЭД СПАЛІЎ РЫМСКІ ФЛЁТ

*Старажытны вынаходнік не падпаліў рымскі флёт, які асаджаў у 215-212 гадах да н.э. Сыракузы ні аграмаднай лінзай, ні якім іншым шкляным прадметам, бо на той час не існавала сродкаў і тэхналёгіі вырабу такіх прыстасаваньняў. Але сучаснае мадэляваньне, праведзенае ў 1973 г. грэцкімі вучонымі,*



*прадэманстравала, што з дапамогаю 50 бронзавых люстраў памерам 1 m на 1,5 m, размешчаных на вышыні 25 m, скіраваўшы сонечныя прамяні ў адну кропку, можна за дзьве хвіліны падпаліць драўляную лодку, якая знаходзіцца на адлегласьці 40 m. Такім чынам, калі таемная зброя сапраўды існавала, дык магла быць ужытая хіба што супраць аднае-дзьвюх з сотняў рымскіх трыер — лёгкіх трохвесельных лодак, што падплылі блізка й пачакалі на месцы пакуль іх падпаляць.*

### ВІЛЬГЕЛЬМ ТЭЛЬ ПАЦЭЛІЎ У ЯБЛЫК

*Герой не прастрэліў на загад злога старосты Гесьлера яблык, што ляжаў на сынавай галаве, і не сышоў з роднага Бюргленa ў горы, каб ахоўваць сьвятасьць народнай прысягі. Вільгельм Тэль — шкада! — не існаваў наогул нідзе, акрамя народнае легенды XVI стагодзьдзя, як сымбаль барацьбы*



*супраць ненавісных Габзбургаў. Ён не існаваў ні пад сваім імем, ні пад імем Вэрні Штоўфахера з Швіцу, Вальтэра Фюрста з Уры альбо Арнальда з Мэлхата, як яго назвалі ў кантоне Унтэрвальдэне. Не існаваў, але ўсёткі жывы дасюль як легендарны герой у шматлікіх раманах і апавяданьнях (напрыклад, П'ера Маэля), драмах (Фрыдрыха Шылера) і нават опэрах (Джаакіна Расіні). І, вядома, у сьвядомасьці свабодалюбівага швэйцарскага народу.*

### ГАЛІЛЕА ГАЛІЛЕЙ ВЫНАЙШАЎ ТЭЛЕСКОП

*Тэлескоп ня быў вынаходніцтвам Галілея (1564-1642). Ён прадаваўся ўжо на зломе XVI і XVII ст. на галяндзкіх кірмашах пад назваю «галяндзкая трубка», а ягонымі вынаходнікамі, хутчэй за ўсё, былі невядомыя вэнэцыянскія шліфоўшчыкі шкла, выгнаныя ў выніку ўнутрыпалітычнага разладу з сваёй краіны. Прафэсар Галілей даведаўся пра навінку, атрымаў ад сябрoў ейнае падрабязнае апісаньне ды ўласна-*



*ручна зрабіў штуку. Галілей, ягоная мужнасьць па-за сумневам, усё ж не казаў у твар інквізіцыі вядомае «Eppur si muove» («Аж яна круціцца»), інакш быў бы неадкладна пакараны сьмерцю. Пратаколы скандальнага працэсу да сяньня захоўваюцца ў ватыканскіх архівах, але вядомы выраз быў знойдзены ня ў іх, а толькі ў 1911 годзе па-мастацку схаваным пад рамаю партрэта вучонага, што быў намаляваны ў 1646 годзе адным з вучняў вядомага тагачаснага мастака Мурыльля на замову біскупа Асканья Пікаламіні — сябрука Галілея. Пікаламіні — і ёсьць, гледзячы па ўсім, аўтарам знакамітага выслоўя.*

### ЖУЛЬ ВЭРН — ПАЛЯК

*Жуль Вэрн (1828-1905) ніколі ня меў польскіх каранёў, хаця так лічылі некаторыя ягоныя біёграфы. Яны даводзілі, што «вэрн» са старафранцускай перакладаецца як «альха», і сапраўднае ягонае прозьвішча — Аляшкевіч. Гэтая легенда распаўсюдзілася яшчэ пры жыцьці славутасьці зь ягонай жа падачы. У пэрыяд найвышэйшае папулярнасьці маладога аўтара звычайна акалялі журналісты, ахвочыя, як вядома, да сэнсацыяў. Жуль Вэрн, які ня супраць быў пажартаваць, закінуў «качку» ды не абвяргаў яе потым. А ў размовах зь сябрамі ўсялякімі намёкамі культываваў няпраўду; карыстаючыся багатай фантазіяй, прыдумляў гісторыі пра пекных польскіх паненак ды пра свае рамантычныя*



*дачыненьні зь імі. Насамрэч Жуль Вэрн паходзіў са старажытнага брэтонскага роду; ягоны бацька быў юрыстам у горадзе Нант, дзе ў 1828 годзе будучы клясык і нарадзіўся.*

**Вадзім КАРЦАЎ,**
трактоўны пераклад паводле **Людвіга СОЎЧАКА**



## Любоў Адзінота

РЭАЛІІ МЕСЦАЗНАХОДЖАНЬНЯ

*Сказалі: стаяць на месцы!*
*Нарэшце*
*Я рушу наперад з душэўным уздымам*
*Пілігрыма.*
*Кожны вольны ў выбары справы*
*Ці стравы,*
*Ня толькі хлебам надзёным насычаесься —*
*Каесься,*
*Значыцца, ня ўсё так безнадзейна.*
*Пякельна*
*Змушаны выбірацца ў трэцяе тысячагодзьдзе*
*З разводзьдзем,*
*Як і даўней сплыве лёд на Бярэзіне.*
*У сярэдзіне*
*Утульна, цёпла, ды цесная поза сьціскае рух, —*
*О, сьвяты дух,*
*Дзе твае шчасьлівыя імгненьні?..*
*Пакаленьні*
*Незалежна ад поглядаў ня ў стане ўплываць на падзеі*
*Падзелаў*
*І на права мець самае неабходнае,*
*Годнае,*
*Што прывіта зь любоўю ад калыскі,*
*Мой блізкі,*
*Чым можаш рэальна дапамагчы?*
*Перасьцерагчы*
*Сына ад нападаў: ня ўкрасьці, не забіць, ня здрадзіць,*
*Ня страціць*
*Моц прыцягненьня пакутнага краю,*
*Заклікаюць*
*Званы ў навакольлі стварыць прыстанак сваёй душы,*
*Скажы*
*Што хочаш сёньня ад жыцьця на гэтай зямлі?*
*Набылі*
*Нязьменна чужое паўтарэньне назваў вуліц,*
*Ці прытуліць*
*Горад да крыла праспэкт Сьвятой Эўфрасіньні?*
*У золкай сіні*
*Стромкія хвоі верхалінамі чапляюцца за аблокі.*
*Вытокі*
*Блакітных мараў павольна счэрпалі сябе*
*У барацьбе*
*Супраць нерухомасьці зьдзяйсьненьняў.*
*Прызначэньнем*
*Тут даражыць спачатку і да канца,*
*І мудраца*
*Не турбуй, ня дасьць парады як перанесьці тое*
*Благое.*
*Што напаткаецца наперадзе.*
*На беразе*
*Неўгамоннай ракі прыпыніліся паломнікі да Рыму*
*І Ерусаліму.*
*Магчыма радасьцю поўняцца тыя, хто выйшаў зь цянётаў*
*Самоты,*
*Адзіноты і звыклага прыўзьнятага настрою.*
*Мрою*
*Апынуцца аднойчы ў дзяцінства квітнеючым лузе*
*У самай роднай запаветнай*
*Беларусі.*

## Сяргей Балахонаў

ТЫ, Я І АЎТАР

Ю.С.

*А раптам заваконны краявід*
*скамечыцца, патрэскаецца ладна,*
*і ў сьлепкім зьзяньні кварцавых планід*
*затанчым аргентынскае мы танга.*
*Забыўшы пра няўменьне танцаваць,*
*я закружу цябе, нібы кружэлку,*
*і ўся вялікакняжацкая раць*
*падзівіцца на спрытнасьць нашу вельку.*
*Мястэчка схамянецца ад вясны,*
*тваёй вясны, вясны расьпераззанай.*
*Зазвоняць арганістыя ў званы,*
*а званары заграюць на арганах,*
*і наша разьяднанасьць прападзе,*
*мы зьнтэгруемся для вечнасьці аргазмаў.*
*Мёд зь півам пацячэ па барадзе —*
*наш аўтар пагуляе досыць класна*
*на сьвяце неўкрыжованых вачэй,*
*на сьвяце нерасьпятых далягляду.*
*Ён абяцаў ня ўмерці, што хутчэй*
*так будзе, і калісь на чорных лядах*
*мы стрэнемся, ня будзе ён судзіць,*
*раскажа пра нялёгкую работу,*
*паўторыць: «Нас, спадарства, не разьбіць...»*
*і скончыць непрыстойным анэкдотам.*

## Эдуард Грахавец

***

*Са шчасьцем сустрэцца*
*Нам рэдка здараецца,*
*І толькі таму,*
*Што вечна ў жыцьці*
*Мы ловім у рукі,*
*Што з рук вырываецца,*
*І тое шукаем,*
*Што нам не знайсьці.*

***

*Нас разьвялі дарогі.*
*Гасьцінцы ляцелі стрэламі*
*І трэсьлі ў мулкіх кузавах,*
*Быццам празь сіты сеялі.*
*Нам усьміхалася сонца,*
*Соннае, чырвоназвонкае,*
*Нам рукі да болю ціснулі*
*Знаёмыя на вясельлях.*
*А дзесьці кнігаўкі плакалі*
*За вёскай над лугавінамі,*
*І ўдалеч глядзелі маці,*
*Далонямі сонца прыкрыўшы.*
*Ім штосьці шапталі сосны,*
*Што ўздыбіліся над хатамі,*
*Вятры-буяны крылатыя*
*Цьвет абтрасалі зь вішань.*
*І так праходзілі вёсны*
*З чаканьнямі і надзеямі,*
*Блукалі ў дубровах леты,*
*У шораху сьпелых траў.*
*А зімы зьдзіраць прыходзілі*
*З восені шэрай адзеньне,*
*І толькі сосны, як некалі,*
*Высьвіствалі на ятрах.*
*І мы да матуль вярталіся*
*Стройныя, як алені,*
*З салёным дарожным ветрам*
*І пахам махоркі горкай.*
*Мы падалі ім на рукі,*
*Мы падалі ім на калені.*
*І плакалі маці ад радасьці.*
*Галовы ўзьняўшы горда.*

## Ян Дзівасіл

***

*Сьмерць мая ня стане цяжкай стратай.*
*Роспач вашых сэрцаў не кране.*
*Пры жыцьці ня быў я герастратам.*
*Хутка вы забудзеце мяне.*

***

*Хоць і не дарогаю Ісуса —*
*іншы мне выносіўся прысуд, —*
*я, адзін з апошніх беларусаў,*
*цяжкі крыж гаротніка нясу.*
*І сабе я не прашу збавеньня —*
*за сясьцёр малюся, за братоў.*
*Госпадзе! Пашлі ім прасьвятленьне:*
*хай нарэшце ўбачаць, хто ёсьць хто.*

БАЛЯДА ПРА ЦЬВІКІ

*Заржавелыя плешкі*
*ўпрыцмок цалавалі*
*варанёнае сталі*
*байкі малаткоў:*
*на Палесьсі паўсталых*
*сялян катавалі,*
*заганялі паболей*
*у целы цьвікоў.*

*Неахвотна жыцьцё*
*ад ахвяр адлятала.*
*Дзед сівы жалкаваў*
*на сьмяротным крыжы:*
*— На будову жытла*
*нам цьвікоў не хапала,*
*а для справы ганебнай —*
*во колькі ляжыць!*

## Лiтаратурны сэмiнар «Варштаты»

**Сержуку Б-ну.** На гэты раз твор атрымаўся больш-менш чытэльны. Праўда, і ён шматслоўны, што перашкаджае яму вольна залятаць у чытацкую душу.

**Ігару Л-ку.** Думкі правільныя. Але так думаюць усе, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны.

**Янку Я-чу.** Твор не атрымаўся.

**Міколу Яў-ку.** Вы напісалі пра сваю творчасьць праўду: «На аматарскім узроўні вершы шчырыя пішу...» Пішыце карацей. Тады нешта атрымаецца.

**Георгію Ст-чу.** «У краіне Купалы і Коласа Гора бязьмежнае: Ходзяць крыўда і боль, Ходзяць роспач і страта сама». Усё так. Так было і пры Купалу і Коласу. Так пісалі Купала і Колас. Ці варта паўтараць клясыкаў?

**Радзімічу.** У Вас ёсьць «жывая журба», якую ўбачыць неба. І ёсьць адчуваньне меры. Пішэце яшчэ, будуць добрыя вершы.

**Анатолю Ба-ку.** У творах шмат пытаньняў кшталту «Калі як людзі будзем жыць?» Шмат твораў з такімі радкамі і ў нашай пошце. Друкуем толькі самае арыгінальнае.

**Уладзіславу Жы-ку.** Вашы вершы сапраўды, як вы пішаце, падыходзяць пад узьнёсла-патрыятычную хвалю. Гэтага мала, каб творы былі надрукаванымі.

**Ганьне М-ч.** Верш ня зь лепшых. Дашлеце болей, каб было з чаго выбіраць.

**Браніславу Пя-чу.** «Гімн каханьня» не загучаў як гімн.

**Віктар Шніп**



*У выдавецтве «Беларускі кнігазбор» выйшла новая кніжка вершаў Рыгора Барадуліна «Лісты ў Хельсінкі». Гэта 28 вершаў-лістоў да Васіля Быкава ў ягонае фінскае выгнаньне. Адказам на вершы — 25 малюнкаў Быкава, зробленых у паўночным краі. Клясычны правапіс. Цана ў сядзібах ТБМ і БНФ — 480 руб.*

Рыгор БАРАДУЛІН

## Ліст чацьверты

*Сум — нацыяналіст.*
*Душа — касмапалітка.*
*Радзіма — незачыненая хата.*
*Шпачыны шчыры сьвіст*
*І туманкова сьвітка*
*Блуканцу нагадаецца зацята.*
*З усіх дарог адна*
*Жаданая — дадому —*
*І ў багацея, і ў нябогі-старца.*
*Чакае ўсіх яна.*
*Ня дай, Гасподзь, нікому*
*Без дарагой дарогі той застацца...*

## Настасься Кудасава

***

*Сьцюдзёная раса на*
*скрыжаваньні,*
*Халодны подых гнюсных*
*ланцугоў...*
*У бессэнсоўным, нізкім*
*аб'яднаньні*
*Мы страцілі сваіх жывых багоў,*

*Забыліся пра матчыны наказы,*
*Сьвятыні краю разграмілі ўшчэнт*
*І самую ганебную абразу*
*Прымаем, быццам шчыры*
*камплімэнт.*

*Але мне сьніцца ў думках*
*непакорных*
*Сьвяточны дзень і сонечная*
*плынь:*
*Нашчадак мой пад сораму*
*дакорам*
*Шануе памяць зьнішчаных*
*сьвятынь!*

*Ружовая вясна на скрыжаваньні,*
*Перадапошні подых ланцуга...*
*З усіх сьцяжынак мне крычыць*
*змаганьне!*
*І сіла невымерная ў руках!..*

*І паўстаюць надзеяй уваскрэслай*
*Народжаныя крыўдай змагары,*
*А над зямлёй ліецца водар песьні*
*У рамонках белых чырваньню*
*зары.*

## Вера Ліпская

***

*Не шукайце сур'ёзнай падставы,*
*Прыпыніце сваю мітусьню*
*І пакіньце штодзённыя справы*
*Проста так... Сустракайце вясну!*

*Проста слухайце сьпеў жаўруковы,*
*Піце сонечных промняў настой.*
*Не шукайце нагод адмысловых —*
*Проста дыхайце новай вясной!*

*На блакітнай пралескавай высьпе*
*Адшукайце адбітак нябёс,*
*Памаліцеся шчыра, урачыста*
*Ў прасьветленым храме бяроз.*

*Вы пакіньце штодзённыя справы.*
*Прыпыніце сваю мітусьню;*
*Не шукайце сур'ёзнай падставы,*
*Проста так сустракайце вясну!*

***

*Завітай у мой сьвет*
*і застанься ў ім. Назаўсёды.*
*Толькі слова адно —*
*і ўміг браму сама адчыню,*
*Што было да цябе —*
*ахвярую каханьня агню.*
*Завітай у мой сьвет*
*і застанься ў ім. Назаўсёды.*
*Там, дзе поўніць крыніцу*
*надзеі гаркавая слодыч,*
*Сваё сэрца, нібыта*
*гадзіньнік, у шчасьці спыню.*
*Завітай у мой сьвет*
*і застанься ў ім. Назаўсёды.*
*Толькі слова адно —*
*і ўміг браму сама адчыню...*

## Алесь Макрацоў

***

*Радаўніца.*
*Рыжкаўскія клады.*
*Магілы продкаў...*
*Магілы родных,*
*блізкіх, знаёмых...*
*Ніводнага надпісу*
*па-беларуску...*
*Першы надпіс*
*на мове продкаў*
*зьявіцца над маёй?*

## Алесь Філіповіч

ВЕРШАПОКАЗКІ

*Адны ідуць на Купальле*
*шукаць Папараць-кветку.*
*Іншыя ставяць сілкі*
*на Сінюю птушку.*
*Дзівакі!*
*...Пайду закіну нерат*
*у бліжэйшую сажалку...*

НАВІНЫ

## Пад дзіравым парасонам

Трэцяя бронзавая скульптура ўпрыгожыла Міхайлаўскі сквэр каля менскага вакзалу. Постаць дзяўчынкі пад дзіравым парасонам, створаная Ўладзімерам Жбанавым з ініцыятывы Ўладзімера Ярмошына, нагадвае мэтафарычны партрэт цяперашняй Беларусі.

## Цэслер і Войчанка ў Ганновэры

На сусьветнай выставе «Экспа-2000», што адчынілася ў Ганновэры, выстаўленыя творы беларускага мастацтва. Наведнікі экспазыцыі «Водныя сусьветы» могуць паслухаць твор менскага кампазытара Віктара Косьцеля «Вада ў пяцёх сьветах», які выконваецца на незвычайных інструмэнтах, у тым ліку на пляшках з вадой. Гэты твор стаўся адным зь пераможцаў конкурсу, у якім бралі ўдзел 10 тысяч кампазыцыяў з 47 краінаў. На выставе «Экспа-2000» можна ўбачыць і праект беларускіх дызайнэраў Уладзімера Цэслера і Сяргея Войчанкі «Дванаццаць з Дванаццатага», прысьвечаны выбітным дзеячам авангарду. Постаці вялікіх папярэднікаў мастакі ўвасобілі ў выглядзе велізэзных яек з мармуру, шкла і цьвікоў. Яйкі Цэслера і Войчанкі ўжо выстаўляліся ў Галяндыі і Расеі, а неўзабаве пераедуць у Злучаныя Штаты.

## Кампакт Мікуліч

Фірма «Каўчэг» выпусьціла аўдыёкасэту і падрыхтавала кампакт-дыск «Ах, любоў мая» зь песьнямі апошніх гадоў Надзеі Мікуліч. Колішняя салістка ансамблю «Верасы» стварыла ўласны выканальніцкі стыль на памежжы эстраднай і народнай музыкі. У той жа фірме «Каўчэг» выйшла кніга вершаў і прозы «Знайсьці сябе пад знакам задыяку» былога прад'юсэра «Песьняроў» Авэніра Вайнштэйна.

## Стужка Асьлюка

Адзіная дакумэнтальная стужка зь Беларусі, якая бярэ сёлета ўдзел у міжнародных кінафэстывалях, – фільм Віктара Асьлюка «Андрэевы камяні» пра клоўна, які весяліў паміраючых у шпіталях ад лейкеміі чарнобыльскіх дзяцей, пакуль сам ледзь не згарэў у аўтакатастрофе. Герой стужкі спрабуе ўратаваць нацыю, высякаючы малітвы за Беларусь на камянях Крэўскага замку. Фільм, прэм'ера якога толькі што адбылася на міжнародным кінафэстывалі ў Кракаве, атрымаў запрашэньні на фэстывалі ў Карлавых Варах і Пецярбургу.

## Дудараў-актор

Старшыня Саюзу тэатральных дзеячоў Беларусі Аляксей Дудараў адзначыў свой 50-ы дзень народзінаў, выканаўшы на сцэне Тэатру юнага гледача ролю ваяводы Дабрыні ў спэктаклі паводле ягонай п'есы «Палачанка». Дудараў пачынаў сваю тэатральную кар'еру 24 гады таму артыстам гэтага тэатру, і менавіта ў ТЮГу адбылася прэм'ера ягонай першай п'есы «Выбар». Драматург паабяцаў захаваць як сувэнір свой заробак артыста за рэпэтыцыі і спэктакль «Палачанка» – 400 рублёў. Такія вось грошы ў Беларусі атрымліваюць артысты першай катэгорыі.

Юрась Барысевіч

## Кніга Аркуша

У сэрыі «Бібліятэка часопіса «Калосьсе» выйшла кніга Алеся Аркуша «Выпрабаваньне развоем» (артыкулы, эсэі, гутаркі). У зборніку сабраныя тэксты апошніх 5–6 гадоў. Прадмову да кнігі напісаў Валянцін Акудовіч. Матэрыялы зборніка фармулююць асноўныя прынцыпы «Таварыства вольных літаратараў» – нонканфармізм, лібэралізм і падкрэсьленая апазыцыйнасьць да сталіцы.

Паводле БАРС

## Фотамода





*У Музэі сучаснага мастацтва адчынілася выстава 39 нямецкіх фотамастакоў, якія здымаюць моду і эротыку для жаночых часопісаў. Выстава паказвае, як зьмяніліся за апошнюю палову стагодзьдзя ня толькі прыёмы мастацкай фатаграфіі, але й самі немкі. Тварам нацы замест былых кіназорак з арыстакратычнымі манерамі цяпер сталіся самаўпэўненыя дзяўчаты бяз комплексаў.*

# ПАРНАТАЎЦЫ

***3-4 чэрвеня ў Менску адзначала дваццатыя ўгодкі выпуску самая нацыяналістычная кляса «парнату»***

«Парнатам» называюць Рэспубліканскі інтэрнат па музыцы й выяўленчым мастацтве імя І.Ахрэмчыка. Дзякуючы арганізацыйным высілкам Андрэя Радзіёнава ў «Сталоўцы» непадалёк ад пэнатаў сабралася добрая частка клясы й шэсьць настаўнікаў на чале з былым дырэктарам «парнату» Ратабыльскім. Марына Безбародава на сустрэчу прыехала нават з Арэнбургу.

Многія нацыянальныя ініцыятывы 80-х паўсталі з удзелам хлапцоў і дзяўчат, што ў 70-я вучыліся разам у гэтай клясе. Напрыклад, рок-гурт «Бонда» немагчыма ўявіць без Івана Маркава й Сяргея Кныша. Гэтаксама цяжка ўявіць «Майстроўню» і «Талаку» без удзелу Генуся Лойкі, Алеся Косткі, Андрэя Радзіёнава, Янкі Медзьвядзёва, Алены Каравай, Сьвятланы Слуцкай. Палова выпускнікоў клясы ўдзельнічала ў талакоўскіх сьпеўках і «калядках» і прайшла шкаленьне Ларысы Сімаковіч. Таму сьпяваюць яны адмыслова. Што пацьвердзілі на чэрвеньскай сустрэчы. Нават стварэньне «Тутэйшых» не абышлося без «парнатаўцаў»: у першы, нонканфармісцкі склад суполкі, якая напачатку нелегальна зьбіралася ў інтэрнаце Акадэміі навук, уваходзілі Лойка й Костка.

Пэрспэктыўную клясу прыкмецілі ў свой час выкладчыкі «парнату». Менавіта ёй выпаў гонар удзельнічаць у «народным» праекце — мастацкім аздабленьні зборніка вершаў Эдзі Агняцьвет «Доктар сьмех». Кніга пабачыла сьвет у «Мастацкай літаратуры» ў 1977 годзе. У ёй было зьмешчана каля 30 малюнкаў маладых «парнатаўцаў» — Алены Каравай, Рыты Рыбачок, Алены Зуевай, Тані Храмянковай ды іншых. Тады пра маладыя таленты нават зрабілі перадачу на БТ. Так паэзуіцку хацелі падкупіць моладзь. Аднак кляса пайшла ў іншым кірунку.

На сустрэчы шмат згадвалася крамольнага, аднак самым антысавецкім учынкам аднадушна быў прызнаны «акт» Тацяны Храмянковай. Пад час творчай сустрэчы з народным мастаком Міхаілам Савіцкім у Палацы мастацтва яна задала майстру пэндзля правакацыйнае пытаньне: «Чаму беларускія мастакі малююць такіх шчасьлівых калгасьніц? Вось, напрыклад, мая бабуля жыцьцё адпрацавала ў калгасе, аддала яму ўсё здароўе, да таго ж выгадавала шасьцёра дзяцей. А ёй прызначылі пэнсію ў 12 рублёў. Дык чаму ёй радавацца?» Атрымаўся страшэнны канфуз. Савіцкі разгубіўся. Адна з выкладчыц адвяла ў бок дзяўчыну й папярэдзіла, што пасьля такіх пытаньняў яна не паступіць ні ў адзін інстытут. Дзяўчыну асабліва не напужалі, бо яна разам зь сяброўкай, Сьветай Слуцкай, у «парнаце» нават не ўступіла ў камсамол.

Гэтая кляса ўяўляе сабой шчасьлівы вынятак зь беларускага правіла, калі ў розных нацыянальных хаўрусах сваркі ўзьнікаюць часьцей, чым хмары на небе. Дзесяць гадоў таму «парнатаўцы» адзначылі першы юбілей выпуску гэтак жа мнагалюдна й сардэчна. Надалей выпрашылі зьбірацца часьцей.

Алесь Аркуш

## Жаданьне гаварыць па-свойму

**Антон Цвид. «Сторінки хвиль». – Берасьце, 1999. Сэрыя «Берасьцейскае вогнішча – Берестейське багаття», 104 с. Наклад 299 ас.**

Гэты невялічкі зборнік вершаў -- першая кніга паэзіі чыста на ўкраінскай мове, выдадзеная на Берасьцейшчыне пасьля 1944 году. Дзіўнае пачуцьцё, якое ўзьнікае па яе прачытаньні, можна выказаць фразай: хочацца гаварыць па-свойму...

Цвыд піша вершы пра рэчы, мае, родныя ад пачатку: пра кантрольна-сьледавую паласу на мяжы, што мазоліла вочы з маленства, пра дызэль Берасьце-Ўладава, які, здавалася раней, ідзе з Заказанкі ў вялікі сьвет, а цяпер ідзе са сьвету ў Заказанку, пра старыцы Бугу, і маладую ўкраінку, што ўтапілася ў іх паўстагодзьдзя таму... Сьвет майго жыцьця – сьвет, які памяць адразу ж паслужліва разбудоўвае і размалёўвае такімі фарбамі, якія бываюць у сьне: пясчаныя сівыя пагоркі-выдмы, вечны несьціханы шум соснаў над домам, твары тых, хто гаварыў на адной са мною гаворцы і каго даўно ўжо няма...

Тэхніка вершаў адыходзіць на другі плян. «Простыя словы, простыя рэчы», паводле ўдалага выразу Міхала Анемпадыстава, калі яны сапраўдныя, кранаюць мацней за вытанчаныя да дасканаласьці.

Вершы назапашваліся ўсё жыцьцё, каб аднойчы, у сапраўды добры дзень, ператварыцца ў кніжку. Наклад, вядома, невялічкі. Ахвотных купіць кнігу й пачытаць, як «Над Мотикалами гуртуються бусли» і «Знову травень засвітив кульбаби...», было б несумненна нашмат болей. Аўтар таксама перакладаў для свайго зборніка найбольш упадабаныя вершы беларускіх паэтаў. Гучаць арганічна.

Па-ўкраінску ў Беларусі дасюль амаль ніхто ня піша. Дый скуль зьявіцца пісьменьнікам, калі нідзе ў Беларусі ўкраінскай не вывучаюць? Але ні бяды. Word-2000 мае праверку ўкраінскай артаграфіі і граматыкі. Цяпер па-ўкраінску пісаць лягчэй, чым па-беларуску: кампутар паказвае памылкі ды яшчэ й раіць, як іх выправіць. Цяпер мы ўжо расьпішамся, трэба думаць...

**Євгенія Жабіньска. «Коли приходить тиша». Більськ-Підляський, 1995. Выданьне Саюзу Ўкраінцаў Падляшша.**

Перабрацца праз Буг і трапіць у Беларусь – гэта, як бачым, займае пяць гадоў.

Калі жанчына піша вершы і жыве на Бузе, дык, акрамя каханьня, якім ня можа ня жыць кожная паэтка, яна жыве тугой і сумам. Моцна ж даюцца нам у знакі практыкаваньні ў пераносе межаў, якімі цешылі сябе моцныя гэтага сьвету паўстагодзьдзя таму! У кругаверці жыцьця не-не, а вяртаесься да колішніх дзіцячых пытаньняў:

Дорогами калікими
снуються
тіні підляшуків
не приписаних
до батьківщини
незнаної з дитинства

дорогами калікими
снуються
тіні тіней

Хто цешыць сябе ілюзіямі, а хто будуе дом, а той рыдлюе грады, тая чакае дзіця, а тая чакае дзіця з арміі, а вось паэтка ведае:

Ні одних
дверей
за собою
не замкнеш
щільно
все
щілинами
сочиться
смуга минулого

Прыемны зборнічак ціхай, сумнай паэзіі, якую прынята называць жаночай. Шкада, што падобных кніжок нельга купіць у менскіх кнігарнях.

Натальля Бабіна

НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

А.Адамовіч. **Рана на Івана**. — Менск: Беларуская навука, 2000. — 215 с., іл. — Наклад 800 ас. ISBN 985-08-0299-5

*Аўген Адамовіч у сваёй кнізе сабраў плён шматгадовае працы ў дасьледзінах адраджэньня й сьвяткаваньня ў Беларусі традыцыйных (паганскіх) сьвятаў у апошняе дзесяцігодзьдзе XX ст.*

Э.Ажэшка. **Выбраныя творы**. / Укладаньне, прадмова й камэнтары В.Гапавай. — Менск: «Беларускі кнігазбор», 2000. — 512 с., іл. — Наклад 4000 ас. ISBN 985-6318-73-4

Чарговы том «Беларускага кнігазбору» выйшаў у чырвонай сэрыі гэтага шматтомнага выданьня, дзе друкуюцца клясыкі беларускае літаратуры. Творы гарадзенскае пісьменьніцы выходзяць па-беларуску ўпершыню за апошнюю чвэртку стагодзьдзя (апошняга разу Ажэшку выдавалі па-беларуску ў 1975 г.).

С.Астравец. **Цэнзарскія нажніцы**: Проза 1984—1999 г. Горадня — Беласток, 2000. — 545 с. ISBN 83-912637-1-1

Гарадзенскі карэспандэнт «Свабоды» й «Нашай Нівы» Сяргей Астраўцоў сам выдаў некалі «рассыпаную» ў наборы дзяржаўнага выдавецтва кнігу свае прозы. Наконт набыцьця зьвяртайцеся ў сядзібу БНФ (Варвашэні, 8) або званеце 227-78-92.

**Беларусь глазами российских журналистов.** — Масква: Галерия, 1999. — 208 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 5-8137-0025-0

Кнігу склалі нарысы расейскіх журналістаў зь іхнымі ўражаньнямі й рэфлексіямі ад наведаньня лукашэнкаўскае Беларусі, напісаныя ў часе візыту ў нашу краіну паводле адмысловага праекту інстытуту «Адкрытае грамадзтва» й Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Л.Галубовіч. **Апошнія вершы Леаніда Галубовіча.** — Полацак: Выдавецкая суполка «Полацкае ляда», 2000. — 76 с. — (Сэрыя «Анталёгія», біб-ка часопісу «Калосьсе».) — Наклад 180 ас.

Адна з найлепшых кніг паэзіі за апошнія гады. Леанід Галубовіч абвесьціў, што перастае пісаць вершы. Наклад кнігі зусім малы, прадаецца яна толькі на сядзібах БНФ і ТБМ.

Да дэмакратыі праз грамадзянскую супольнасьць. / Пад рэдакцыяй П.Фэнрыха, У.Роўды. — Шчэцін, 1999. — 270 с.

М.Ермаловіч. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. — Менск: Беллітфонд, 2000. — 448 с. — Наклад 8500 ас. ISBN 985-6576-08-3

Аўтар гэтае кнігі не дажыў да поўнага выданьня сваіх гістарычных прац усяго некалькі месяцаў. Кніга абгрунтоўвае беларускія прыроду й паходжаньне Вялікага Княства Літоўскага. Цана 1900 рублёў. Адна з самых тыражных беларускіх кніг апошніх гадоў. Спадабаецца шырокаму колу чытачоў.

С.Кандыбовіч. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. — Менск: «Беларускі гістарычны агляд», 2000. — 160 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6374-15-4

Сымон Кандыбовіч (1891—1972) на пачатку 1930-х быў кіраўніком справаў Савету народных камісараў БССР (менавіта ён разам з старшынём СНК БССР Міколаем Галадзедам 26 жніўня 1933 г. падпісаў пастанову ўраду «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу»), у 1940 г. быў арыштаваны, у часе другое сусьветнае вайны браў чынны ўдзел у беларускім грамадзка-палітычным жыцьці (быў сябрам Беларускае Цэнтральнае Рады), пасьля на эміграцыі, дзе ад 1956 г. выконваў абавязкі рэфэрэнта Сакратарыяту Рады БНР у пытаньнях гаспадаркі. Аўтар быў сьведкам апісаных у кнізе падзеяў; гэтаксама ў выданьні шмат турэмных фотаздымкаў беларускіх нацыянальных дзеячоў.

Крыж памяці. Кароткі сьпіс войнаў, паўстаньняў, рэпрэсіяў, катастрофаў, што выпалі на лёс Беларусі за тысячагодзьдзе / Аўтар праекту й складальнік К.Тарасаў. Мастакі В.Бугаенка, В.Фёдарава. — Менск: ТАА «Лекцыя», 2000. — 116 с.: іл. — Наклад 450 ас. ISBN 985-6305-26-8

Выданьне складаюць «чорныя» даты беларускае гісторыі — ад спаленьня Полацка кіеўскім князем Валадзімерам у 980 г. да трагедыі на Нямізе ў Менску 30 траўня 1999 г.

**Кур'ер**. № 2, травень 2000 г. — Менск, 2000. — 48 с. — Наклад 5300 ас.

Галоўная тэма нумару — нацыянальны характар. Адзін з найцікавейшых матар'ялаў — нарыс Аляксандра Фядуты пра палітычны шлях і жыцьцёвую долю Віктара Ганчара. Але ўвага: амаль суцэльна расейскамоўнае выданьне.

У.Ліпскі. **Каралева белых прынцэс**: Выбранае: Аповесьці. Казкі. Апавяданьні. Для малодшага школьнага веку. / Мастак Я.Ларчанка. — Менск: Юнацтва, 2000. — 335 с., іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0296-7

Старшыня Беларускага дзіцячага фонду Ўладзімер Ліпскі, напэўна, найбольш выдаваны дзіцячы пісьменьнік краіны. Цана 1650 руб.

**Магілёўская даўніна, 1999 г.** — Магілёў, 1999. — 192 с., 50 іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6568-07-2

Гэты магілёўскі часапіс цяпер выходзіць штогод. Наконт набыцьця трэба зьвяртацца ў менскую сядзібу БНФ і ТБМ.

Д.Міцкевіч. **Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа**. — Менск: Полымя, 2000. — 288 с., іл. — Наклад 2800 ас. ISBN 985-07-0363-6

Даніла Міцкевіч, сын народнага песьняра, згадвае пра невядомыя бакі жыцьця Коласа, пра ягоных сяброў і сучасьнікаў. Кніга мае шмат фотаздымкаў і лёгка чытаецца. Цана 515 руб.

**Памяць. Мсьціслаўскі раён**: Гістарычна-дакумэнтальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. / Укладальнік У.Гасянкоў; Рэдкалегія: У.Гасянкоў ды інш. Мастак Э.Жакевіч. — Менск: Полымя, 1999. — 608 с., іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-07-02-01-X

Чарговая кніга «Памяці» прысьвечана радзіме Алега Трусава і Ўладзімера Караткевіча.

**Студэнцкая думка.** № 5, травень 2000 г. — Менск, 2000. — 40 с. — Наклад 1000 ас.

Агляд падрыхтаваў **Віктар Мухін**



# СУЧАСЬНІКІ й СУАЙЧЫНЬНІКІ

Адам Глёбус

**Быкаў**

У віленскім Палацы мастацтваў загаварыў я з шатнікам, спытаў, ці не мастак ён. Сівабароды дзед сказаў, што пэнсіянэр. Я настойваў... «А былі мастаком?» «Не, быў некалі літаратурным крытыкам. А Вы з Расеі?» Тут мне давялося не пагадзіцца. «Зь Беларусі». «О, мы ў Літве ведаем пра вашую драму». «А я чытаў літоўскую прозу». «Каго?» «Авіжуса». «Ён вельмі савецкі пісьменьнік, і па-расейску выходзілі кепскія пераклады». «Я чытаў Ланскаўскаса...» «А гэты нічым ня вызначыўся. Вось ваш Быкаў сапраўдны сумленны літаратар, толькі рэдактары й крытыкі зрабілі зь яго савецкага». На тым і разышліся. Можа праз дзесяць ці дваццаць гадоў нейкі шатнік у Менску скажа, што рэдактары зрабілі з Васіля Быкава антысаветчыка. Пабачым.

**Воўк**

Прадпрымальнік Леанід Воўк перабраўся зь Беларусі ў Ізраіль, а адтуль у Літву. У Вільні пачаў разгортваць камэрцыю, дайшло й да харчоў. А прадукты, пасьля жыцьця на сьвятых землях, не прадукты, калі не кашэрныя. Воўк прывез у Вільню рабіна. Той прыйшоў на Воўкаву хлебапякарню, паглядзеў і пачаў рабіць абход, зазіраў ва ўсе куточкі. «Што Вы шукаеце?» — «А ці не было тут дзе сьвінарніка...» Воўк сумеўся. «Ты ўяўляеш, — казаў мне Лёня, — ён пасярод гораду сьвінарнік шукаў!» А нашто зьдзіўляцца, калі віленчукі паўсюль тое сьвінства ядуць. Зрэшты, арабы сьвініны не ўжываюць, а габрэю жыць зь імі ня соладка.

**Чупоніс**

Жывапісец Ёнас Чупоніс расказаў сучаснае віленскае паданьне... «У паваеннай Вільні была процьма вокнаў на дахах. Сталін загадаў тыя вокны прыбраць, каб змагары за самастойнасьць Літвы не маглі ўцякаць праз іх ад энкавэдыстаў. Бо наш лясны брат — скок у вакно, і паляцеў па дахоўцы, з даху на дах, з даху на дах... Ніякі энкавэдыст ня злавіць. А цяпер вярнулася самастойнасьць, паглядзі — і вокны на дахі вярнуліся».

А калі ж у Менску вернуцца падобныя вокны, пазабіваныя Язэпам Джугашвілі?

**Трусаў**

На дні нараджэньня ў манэкеншчыцы Тамары Ганчаровай я сядзеў за сталом побач зь мілавіднай кабетай, якая працавала ў рэстаўрацыйных майстэрнях разам з Алегам Трусавым. Кабета пераконвала мяне, што ў Трусава ёсьць каханка, а я пярэчыў — маўляў, з такім, як у Алега, аблічам каханкі быць ня можа. Трусаў і ў дваццаць пяць выглядаў на восемдзесят два. Такое бывае: адны ў сорак выглядаюць на шэсьць гадоў, а іншыя ў шэсьць — на сорак. Геранталягічныя працэсы не такія аб'ектыўныя, як нам хацелася б. І колькі ні пераконвала мяне кабета ў наяўнасьці трусаўскай каханкі, я не паверыў.

**Галубовіч**

Лёня Галубовіч запярэчыў, калі я назваў яго добрасумленным літаратурным чыноўнікам. Ён ахарактарызаваў свой стан, як цьвярозае разьвітаньне зь літаратурнымі ілюзіямі... Дарма пярэчыш, Леанідзе. Для станаўленьня й замацаваньня беларускай самастойнасьці нам якраз і не ставала такіх, як ты, чыноўнікаў, і наагул усялякіх чыноўнікаў розных маштабаў, відаў і падвідаў. А расчараваных, пэсымістычных, настроеных на разьвітаньне з ілюзіямі — процьма.

**Маліноўскі**

Рэстаўратар Юра Маліноўскі расказаў, што ягоная маці жыве ў вёсцы й так напрацоўваецца за дзень, ажно ўвечары ня можа глядзець тэлевізію. Яна як прысядзе, дык і засынае. Сам Юра такі ж, як і маці, працаголік. А мне ўсё ня сьпіцца.

**Самедаў**

Турак з Азэрбайджану Асім Самедаў прыехаў вучыцца ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. У Азэрбайджане не было вышэйшай навучальнай установы па выяўленчых мастацтвах, і Асіма ўзялі без іспытаў. Ні расейскай, ні, тым больш, беларускай мовы ён ня ведаў. Яго вучылі. Першае, што засвоіў Асім — лаянка. «Піляць нярускі», — бясконца мармытаў Самедаў. А калі загадчык катэдры Гаўрыла Вашчанка спытаў: «Як жывеш, Асіме?» — пачуў: «Нічэво, піляць, харашо жыву!»

**Малішэўскі**

«Адамчык (я) ніколі не пакажа сваёй карціны, калі ў яго дома ня будуць схаваныя дзьве іншыя», — на праглядзе дыплёмных эскізаў заўважыў мастак Альгерд Малішэўскі. — «Бо ён у нас геній. Мы можам гаварыць пра ягоную працу самыя дрэнныя словы, а ён будзе стаяць і думаць пра схаваныя ад нас палотны». Сам за сабою я гэтай якасьці не заўважаў, а рабіў тое інтуіцыйна. Толькі дзякуючы Малішэўскаму я пачаў прыхоўваць спачатку карціны з малюнкамі, а пазьней вершы з апавяданьнямі. Ні разу я ня выдаў кнігу, калі ў маім любым стале не хаваўся рукапіс наступнай, лепшай.

**Хадыка**

«Адамчыку (мне) трэба дазваляць рабіць тое, што ён хоча. Інакш ён наагул нічога рабіць ня будзе. А калі яму дазволіць працаваць свабодна, ён зробіць і сваё, і тое, што трэба па праграме», — так Алег Хадыка адстойваў і адстаяў мае правы на экспэрымэнты ў тэатральна-мастацкім інстытуце. А пазьней ва ўсіх галінах выяўленчага мастацтва мне перашкаджалі экпэрымэнтаваць. Нават выгналі з працы з рэстаўрацыйных майстэрняў за тое. што ў непрацоўны час напісаў кампазыцыю «Страшны суд». З палотнаў глядзелі людзі, каму лёс вызначыў хварэць на рак скуры. Кіраваў майстэрнямі і, адпаведна, выгнаньнем той жа Алег Хадыка. А вось у літаратуры мае «извивы мысли» віталіся. Таму я больш прызнаны літаратар, чым мастак.

**Чаропка**

У гісторыка-бэлетрыста Вітаўта Чаропкі чуйнае вуха. Ён любіць клясычную музыку і напісаў пра яе наступныя сказы: «Аднекуль чулася спакойная музыка. Нешта клясычнае: ці то Шапэн, ці то Бэтховэн». А можа ўсё ж Моцарт ці Шубэрт?

**Марцаў**

Журналіст Пеця Марцаў трапіў у запой. Ён ляжаў у дзіцячым пакоі й жлукціў вінцо, хаваючы бутэлькі ў гурбе цацак. На трэці дзень дачка, якой тлумачылі, што бацька хварэе, сказала: «А я ведаю, якая ў таты хвароба». «Якая?» — са сполахам спыталася Пецева жонка. «ЛІТРАГІЧНЫ СОН!» — паставіла дыягназ шасьцігадовая дзяўчынка.

**Каткоў**

Настаўнік-мастак Сяргей Каткоў аднойчы сабраў нас, навучэнцаў студыі выяўленчага мастацтва, і сказаў: «Не прапусьціце вясны. Гэта вельмі важна — не прапусьціць вясны». У ягоных словах была мудрасьць будысцкага настаўніка, толькі гэта я зразумеў праз трыццаць гадоў.

**Коўзусь**

Малявальшчык Уладзімер Коўзусь пераконваў мяне, што трэба прымерваць на сябе самыя розныя стылі, каб адчуць і ўбачыць менавіта сябе, сваю адметнасьць і выключнасьць. Пераканаў.

**Навуменка**

Калі я чытаю нейкага Бельскага, адрэдагаванага якімсьці Навуменкам, і бачу ў навучальным выданьні, што Глёбус піша нібыта парнаграфію, дык згадваю прыклады найсапраўднейшай літаратурнай парнаграфіі... «Нэгры былі чорныя...» — гэта ад Івана Навуменкі. «Ён не ўяўляў сабе жыцьця без малатка,» — вось табе ад таго ж дзяржаўнага аўтара.

**Законьнікаў**

Рэдактар Сяргей Законьнікаў на сэмінары ў Польшчы скардзіўся на Лукашэнку, які не фінансуе ягонага часопіса «Полымя» на 100%, а толькі на 60%. Сапраўды, даў бы Лукашэнка Законьнікаву стоадсоткавае фінансаваньне! І ўзаемным крыўдам капец.

**Аўрамчык**

Фокусьнік Мікола Аўрамчык зрабіў найвялікшую містыфікацыю ў беларускай савецкай літаратуры: напісаў і распаўсюдзіў паэмку «Сказ пра Лысую гару». Падпісаў ён твор псэўданімам Вядзьмак Лысагорскі, а сябе назваў у тэксьце «сьвятоша, праведнік Аўрамчык». Ні больш ні менш, а «сьвятоша» й «праведнік», які «адгрохаў добры сабе храмчык». Літдэтэктывы не знайшлі аўтара, бо стаяў ён паміж чортам і Богам, а таму быў нябачны. Я не дасьледчык літаратуры й не праводзіў аналізаў. Проста, калі прыступ хваробы ў Міколы Аўрамчыка быў вельмі моцны і ён падумаў, што жыць засталося ўсяго нічога, дык і расказаў майму бацьку пра сваё аўтарства. Хвароба зьлітавалася над паэтам. І ён жыве, піша вершы й нават у кіно пра Пушкіна здымаецца. Дай яму Бог здароўя. Я болей люблю жывых паэтаў, чым мёртвых, таму й раскрыў таямніцу.

# ВЯРТАНЬНЕ ЗРАСЕЙШЧАНЫХ БЕЛАРУСАЎ

«Мы идём без цепей, но не чувствуем воли», -- пачаў сьпявак сваю новую песьню і заля заціхла, зьдзіўлена прыслухоўваючыся. Вельмі нечаканым быў гэткі паварот у творчасьці любімца.

... А на шкловской земле, в огуречной столице

Постаревшая мать, повышая надой,

На дорогу глядит: ну когда ж возвратится

Мой сынок непутёвый домой?

Гэта не былі традыцыйныя бурныя воплескі, якімі маладая магілёўская публіка два разы на год шчодра адорвае Аляксандра Баля, гэта была авацыя, якая перабівалася настойлівымі крыкамі «Біс!» Але сьпявак, крыху нават разгублены ад такой рэакцыі, ня стаў сьпяваць песьню наноў.

Не сказаць, каб песьня, якая так спадабалася слухачам, была нейкай знаходкай у творчасьці хлопца, хутчэй наадварот: у творчым пляне яна шмат саступала ранейшым творам. Новай жа была толькі тэматыка. Гэта і ўхвалілі слухачы такой бурнай авацыяй.

Баля ў Магілёве любяць. Ягоны талент праявіў сябе яшчэ пад час вучобы ў вучэльні культуры. Ад увагі і пахвалы, мабыць, затачылася маладая галава, і хлопцу захацелася шырокай славы, для якой на радзіме, на ягонае меркаваньне, не было ўмоваў. І паехаў ён шукаць шчасьця за мяжой. Але замежжа сустрэла яго няветла. «Довольно метко, но крайне редко железный доллар в шляпу упадёт». І праз колькі дзён паўгалоднага існаваньня ён змушаны быў вярнуцца назад, не адмаўляючыся ад мары знайсьці багацейшую і ласкавейшую мацірадзіму. Эміграцыйная няўдача натхніла яго ўсё ж на песенны цыкль («паэму»), прысьвечаны гэтай вылазцы ў багаты і жорсткі сьвет, якім ён найперш і цешыў магілёўскі люд.

Тыя, хто наведвае канцэрты Баля, ужо заўважылі, што новыя песьні зь яго лезуць ня так шчодра, як раней. Паспрабую выказаць сваё тлумачэньне гэтаму.

Гэты чалавек з тыпова беларускім прозьвішчам чамусьці лічыць сябе расейцам. І ў сваёй творчасьці арыентуецца і абапіраецца на расейскія паэтычныя і музычныя формы, на расейскія традыцыі і культуру, нарэшце, на расейскую мову. Гэткія тыпова расейскія тэксты песень («добрый молодец», «ой, головушка ты моя»), і пяецца там пра «русскую» душу, пра «русских» людзей. Можна зразумець: багацьце расейскай паэзіі прыцягвае творчыя душы, схіляе да перайманьня. Акрамя таго, ёсьць спажыўцы такой творчасьці, а поўная заля на сольным канцэрце так цешыць душу сьпевака! Але, зь іншага боку, узворваць узараную глебу — няўдзячная справа.

Расея далёка. Яна жыве сваім жыцьцём, ня тым, якім жывем мы. Цяжка сёньня адчуваць праблемы Расеі і творча рэагаваць на іх, жывучы за яе межамі. І з гэтай прычыны Расея ня вельмі дадае натхненьня свайму прыблуднаму кандыдату ў сыны.

А Беларусь ціха чакае, калі ейны сын урэшце павернецца да яе.

Напачатку я расказаў пра фрагмэнт восеньскага канцэрту сьпевака. І вось я пайшоў на новы канцэрт у траўні.

Гэты раз, акрамя сваіх твораў, Аляксандар сьпяваў Акуджаву, Галіча («Прамаўчы»), Высоцкага. І падбор песень шмат аб чым гаварыў. Але я чакаў, калі ён запяе сваё — дзе ня толькі пра каханьне ды вайну, дзе будзе адчувацца беларускае, хай сабе пакуль і на звыклай для яго расейскай мове. Мае спадзяваньні спраўдзіліся, і я з затоенай радасьцю адзначыў, што юнак павольна ды няўхільна вяртаецца з духоўнай эміграцыі да Беларусі.

Я захацеў выказаць такое сваё меркаваньне аб творчасьці А.Баля ў Магілёве. Аказалася, што я гэтага нідзе не магу зрабіць. Падуладныя газэты, якія выходзяць з баязьлівай аглядкай, не надрукуюць з-за зьместу. А рэдактар адзінага незалежнага «Тыднёвіка Магілёўскага» адмовіўся, бо «ня наш гэта чалавек».

Ясна, што Баль праграшыў тым, што пачуваўся ў Беларусі, як чарвяк з гнойнай кучы, што зайздросьціць чарвяку зь яблыка (гэты анэкдот быў папулярным на яго ранейшых канцэртах), што пра мову выказваўся зьдзекліва. Але ж, здараецца, што й немаўля кусае мацярынскія грудзі замест таго, каб смактаць зь іх малако.

Не падабаецца мне падзел «наш — ня наш». Калі шапялявым голасам, у якім губляецца палова словаў, нехта пяе па-беларуску, дык гэта «наш»? А калі пра нашае хораша сьпявае, але па-расейску, дык — «ня наш»? Вось і ствараем рэзэрвацыю самі для сябе!

Перад маці-Беларусяй хто толькі не зграшыў! Калі ўсіх такіх лічыць «ня нашымі», якая застанецца купка «нашых»? Усе, хто ў нас у Беларусі прытуліўся, нашы. Нават Аляксандар Рыгоравіч наш, бо каму ж мы яго аддамо? Не, трэба разам змагацца за ягоную душу. І за душы ўсіх іншых.

«Ня наш» — пачапілі шыльду — і ўсё падганяецца пад яе: і таленту паэтычнага няма, і густу бракуе, і фанабэрыі зашмат, і на ягоныя канцэрты ходзяць толькі закаханыя дзяўчынкі, і арыентуецца на нізкапробную папсу, і... Што ж, і праўда. Голас — падарунак Божы — патрабуе добрага настаўніка; ды дзе ж яго ўзяць? Тэксты песень добра гучаць у выкананьні, на паперы ж імгненна праяўляюць недасканаласьць. Але дзе знайсьці паэтычнае асяродзьдзе, крытыка, які б дапамог вырасьці паэту? Фанабэрыя — так. Але ж хто другі чалавек у Магілёве, які б два разы на год мог сабраць поўную залю і ўтрымліваў яе ўвагу тры гадзіны запар?

Нам патрэбнае новае разуменьне Беларусі, новае адчуваньне нацыянальнага адзінства. Той, хто сёньня ня з намі, праз пэўны час стане з намі, — дзьверы заўсёды трэба трымаць адчыненымі. Біблейныя сюжэты вучаць даравацць нават больш цяжкія грахі.

А Баль ідзе да нас, гэта ясна ўсім, хто цяпер паслухае яго. І бурныя воплескі, якімі сустракаюць новыя песьні А.Баля, даволі паказальныя, бо на канцэрты Баля ходзяць не нацыянал-патрыёты. Значыць, мы недалёкія ад нацыянальнага адзінства.

Міхась Булавацкі

# ЗЕМЛЯКІ,
## альбо Беларускія лімэрыкі-II

*Абяцанкам палітыка з Горадні*
*не даюць болей веры ні горад, ні*
*сужаніца, ні дзеці.*
*Ой, што робіцца ў сьвеце!*
*Ой, відаць, пачынаюцца гора дні!*

*Рэстаранны музыка ў Вялейцы*
*Баха граў на электражалейцы.*
*А Яган Сэбасьцян*
*меў шыкоўны баян*
*і шабашыў на вузкакалейцы.*

*Сын старога музыкі ў Вялейцы*
*грае джаз на той самай жалейцы*
*й толькі вольнай пары*
*любіць ВІА «Сябры»*
*й аддае перавагу батлейцы.*

*Неразважны сатырык з-пад Слоніму*
*вершы надрукаваў без псэўдоніму*



*супраць уладара –*
*і за спробу пяра*
*атрымаў... (Не знаходжу сыноніму.)*

*Рызыкоўныя гоншчыкі зь Ліды*
*выпрабоўвалі супэрбаліды...*
*Сёньня кожны жыхар*
*хлопцаў ведае ў твар:*
*гераічныя ў іх інваліды!*

*Патрыёт-пабіраха з Смургоняў*
*ў знак пратэсту жабруе ў вагоне*
*і сьвядома бярэ*
*толькі дробныя «рэ»:*
*на буйных не малююць «пагоні»!*

*РНЕшнік-суворавец з Кобрыню*
*не баіцца ні ўдава, ні кобры, ні*
*каракурта, бо ён*
*сам нібы скарпіён,*
*«дзяржбясьпекай» як зброя адобраны.*

*Найскептычная жанчына з Рэчыцы*
*атрымала пасаду дасьледчыцы.*
*Запярэчыш старой –*
*толькі скепсьціш настрой:*
*найскептычным вой кепска пярэчыцца!*

*Найлявейшы расеец з-пад Копылю*
*ў патрыманым катаецца «опэлі»:*
*гаспадар год таму*
*не патрапіў у турму*
*й пахаваны ў мясцовым нэкропалі.*

*Сама праведны рэзьнік з Лагойску*
*стаў рабіць абсалютна па-гойску:*
*праз сваю дабрыню*
*забівае сьвіньню,*
*бо сыны ва Ўкраіне, у войску.*

*У сям'і чарнасоценца з Доўску*
*сын у сьне гаварыў па-жыдоўску.*
*Бацька помсьціць гатоў,*
*закрычэў: «Бі жыдоў!»...*
*А пасьля даравaў па-бацькоўску.*



Здымак Анатоля Клешчука



**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- да 20 словаў (тэкставы модуль)— **90** руб.,
- звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — **114** руб.;
- па-мастацку аформленая аб'ява – **54** руб. за 1 кв. см,
- па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **72** руб. за 1 кв. см.

За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае адз АAТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.
На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ «ЗАРЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ»

Рэдакцыя

## паштовая скрынка

***Эдуарду Р. з Гомеля.*** *Усе кантакты зь іншым сьветам мусілі адбывацца праз расейскую мову, дый цяпер гэта накідаецца. Таму й ня могуць крэольскія СМІ абыходзіцца без расейскіх цытатаў, вершаў, фразэалёгіі. «Масква ў тэлевізары і галаве». За вонкавым касмапалітызмам расейскамоўных выданьняў — выразны дзяржзаказ. За вонкавай абмежаванасьцю бел. выданьняў — адкрытасьць сьвету.*

***Анатолю М. зь Менску.*** *У Вашым апісаньні атмасфэры канцэрту паган-року няма спэцыяў, пра групы пішаце прыкладна як для камсамольскай газэты, каб нідзе нікога не пакрыўдзіць, а ўсё з-за таго, што пра маргінальнае ў музыцы вы пішаце з дапамогаю структураў і шаблёнаў, паводле якіх пішуць пра папсу ці прэстыжныя рок-групы. Выходзіць бяздушна. А яно патрабуе сямейнага, індывідуальнага погляду!*

***Віктару Ф. зь Менску.*** *Чакаем новых малюнкаў. Адбіраць лепшае будзем і надалей.*

***Яну зь Берасьця.*** *Гэта калі не крутня, дык дзіцячыя гульні. Лепш пакуль пачакайце. Далучайцеся да тых, каму нельга не давяраць.*

## прыватныя абвесткі



**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна: 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Рэдактар аддзела інфармацыі Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Віктар Корзун. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3749. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 04.06.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2926. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская 19/36